ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№2 (95) люты 2019 год
CATHOLICNEWS.BY

# Перамога жыцця над смерцю


Стар. 7

# Вернікі ўшанавалі памяць ахвяраў росіцкай трагедыі


Стар. 8

Дзмітрый Прыступа: “ Я буду служыць Богу, людзям і Беларусі”

Ці можна мяняць хросных бацькоў?

Стар. 13

У Бягомльскім Цэнтры “Светач” прайшоў семінар “Межы жыцця”


Стар. 6

“Згарэў, як свечка”: у Плюсах развіталіся з ксяндзом Казімірам Акушкам


Стар. 5, 9

Сакрамант намашчэння хворых. Што неабходна ведаць


Стар. 11

Больш матэрыялаў чытайце на сайце Catholicnews.by



# Папа Францішак пра трагедыю абортаў, цэлібат і сексуальнае выхаванне



**Аборты, сексуальнае выхаванне, цэлібат – гэта некаторыя тэмы прэс-канферэнцыі Папы, якая прайшла падчас пералёту з Панамы ў Рым. Размова з журналістамі працягвалася каля 50 хвілін.**

"Мая місія – гэта місія св. Пятра, якая заключаецца ва ўмацаванні ў веры", – сказаў Пантыфік, адказваючы на пытанне, якія наступствы будзе мець яго візіт у Панаму. "Я не магу падвесці рахунак місіі. Я станаўлюся перад Панам на малітве, заношу да Яго ўсё, што перажыў, і прашу Яго, каб умацоўваў у веры праз мяне. Вось так я намагаюся жыць місіяй Папы", – дадаў Святы Айцец.

У сувязі з вялікай колькасцю выпадкаў ранняй цяжарнасці ў Панаме, Папу спыталі пра адносіны да сексуальнага выхавання ў навучальных установах. "Я думаю, што ў школах трэба даваць сексуальнае выхаванне. Секс – гэта Божы дар, а не монстр. Ён з'яўляецца Божым дарам, прызначаным для любові, але калі нехта выкарыстоўвае яго, каб зарабляць грошы ці злоўжываць іншымі, гэта яшчэ адна праблема", – сказаў Папа.

"Сексуальнае выхаванне трэба даваць аб'ектыўна, без ідэалагічных падтэкстаў. Таму што калі ў школах даецца сексуальнае выхаванне, прасякнутае ідэалагічнай каланізацыяй, знішчаецца асоба", – дадаў Папа.

Пантыфік падкрэсліў, што выхоўваць – значыць раскрываць найлепшае ў чалавеку і суправаджаць яго. Для гэтага неабходныя адпаведныя настаўнікі і падручнікі. "Я бачыў розныя: ёсць тыя, якія дапамагаюць сталенню, а ёсць такія, якія робяць шкоду", – сказаў ён.

Францішак заўважыў, што ў ідэале сексуальнае выхаванне павінна пачынацца дома, яго мусяць даваць бацькі. "Гэта, аднак, не заўсёды магчыма па прычыне розных сямейных сітуацый ці таму, што яны не ўмеюць гэтага рабіць", – падкрэсліў Францішак.

Адзін з журналістаў папрасіў Папу пракаментаваць моцныя словы з асуджэннем абортаў, якія прагучалі падчас Крыжовага шляху ў Панаме. Ён спытаў: ці паважае гэта пазіцыя пакуты жанчын і ці адпавядае пасланню аб міласэрнасці?

"Пасланне міласэрнасці – для ўсіх, у тым ліку для асобы, якая развіваецца ва ўлонні. І пасля гэтага падзення таксама існуе міласэрнасць. Але гэта нялегкая міласэрнасць, бо праблема не ў тым, каб даць прабачэнне, але каб суправаджаць жанчыну, якая ўсвядоміла, што зрабіла аборт. Гэта жудасная драма, калі жанчына асэнсоўвае тое, што ўчыніла… Трэба быць у канфесіянале, там трэба даваць суцяшэнне, і таму я дазволіў усім святарам адпускаць грэх аборту", – сказаў Папа.

Паводле Папы Францішка, жанчына, якая зрабіла аборт, павінна "сустракацца" са сваім дзіцяткам. "Калі гэтыя жанчыны плачуць і перажываюць гора, я даю ім такую параду: тваё дзіця на нябёсах, размаўляй з ім, праспявай яму калыханку, якую не змагла яму праспяваць. У гэтым знаходзіцца шлях прымірэння паміж маці і дзіцяткам. З Богам прымірэнне ўжо адбылося, таму што Бог прабачае заўсёды. Але яна таксама павінна ўсвядоміць, што здарылася. Каб добра зразумець трагедыю аборту, трэба знаходзіцца ў канфесіянале. Яна жудасная", – падкрэсліў Пантыфік.

Чарговае пытанне датычылася прычын аддалення моладзі ад Касцёла. Францішак заўважыў, што галоўнае – гэта адсутнасць належнага сведчання з боку вернікаў, святароў і біскупаў. "Не кажу з боку Папаў, бо гэта занадта, але … таксама і гэта", – сказаў ён.

"Калі пастыр становіцца прадпрымальнікам ці арганізатарам душпастырскага плану, калі ён не блізкі да людзей, тады не дае сведчанне пастыра. Пастыр павінен быць з народам. Пастыр павінен быць наперадзе статку, каб указваць шлях. Ён павінен быць унутры статку, каб адчуваць пах людзей і разумець, што адчуваюць людзі, у чым маюць патрэбу. А таксама ён павінен быць напрыканцы статку, каб ахоўваць яго з тылу. Але калі пастыр жыве без запалу, людзі адчуваюць сябе пакінутымі, у пэўным сэнсе адчуваюць, што імі пагарджаюць, адчуваюць сябе сіротамі", – перакананы Святы Айцец.

Папа таксама звярнуў увагу на адказнасць свецкіх вернікаў. "Свецкім я параіў бы: не кажы, што з'яўляешся католікам, калі не даеш сведчання. Замест гэтага можаш сказаць: я атрымаў каталіцкае выхаванне, але я не практык, я жыву ў духу гэтага свету, не глядзіце на мяне як на прыклад", – падзяліўся сваім меркаваннем Францішак.

Святога Айца спыталі таксама пра магчымасць адмены цэлібату для святароў лацінскага абраду. "Мне прыходзяць на думку словы св. Паўла VI: "Аддаю перавагу таму, каб аддаць жыццё, перш чым змяніць закон пра цэлібат". Заўважце, што гэта вельмі мужныя словы, прамоўленыя ў 1968-1970 гг., у перыяд больш складаны, чым цяперашні. Асабіста я лічу, што цэлібат з'яўляецца дарам для Касцёла і не пагаджуся з тым, каб дазволіць факультатыўны цэлібат", – адказаў ён.

Папа дапусціў дыскусію па гэтым пытанні толькі ў некаторых выключных сітуацыях і душпастырскіх патрэбах, якія, напрыклад, існуюць на далёкіх астравах у Акіяніі, дзе цалкам адсутнічаюць святары.

"Маё рашэнне адносна факультатыўнага цэлібату: не! Я закрыты? Магчыма, але я не адчуваю сябе здольным стаць перад Богам з гэтым рашэннем", – заўважыў Папа.

Адказваючы на просьбу пракаментаваць лютаўскую сустрэчу старшынь епіскапатаў на тэму абароны непаўналетніх, Францішак звярнуў увагу, што яна павінна стаць "катэхезай" для біскупаў, якая пасадзейнічае ўсведамленню трагедыі злоўжыванняў, а таксама пазнаёміць з тым, як рэагаваць на падобныя з'явы.

Святы Айцец зазначыў, што гаворка ідзе не толькі пра касцельную, але і пра агульначалавечую праблему, якая распаўсюджана паўсюль. "Таксама і мы, вырашаючы праблему ў Касцёле, дапаможам вырашыць яе ў грамадствах і сем'ях, дзе ўсё затойваецца па прычыне сораму", – мяркуе Святы Айцец.

*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

## Гісторыя пяцігадовага хлопчыка ўразіла Папу: "Давяраю гэта Богу ў малітве!"

**Падчас сустрэчы з журналістамі Папа Францішак распавёў гісторыю маленькага хлопчыка з Сусветных дзён моладзі ў Панаме. Святы Айцец адказаў на пытанне журналіста "Радыё Панама" Эдвіна Карбера Урыбе.**

Журналіст спытаў Папу пра яго місію падчас апошніх Сусветных дзён моладзі. Вось адказ Францішка: "Мая місія на Днях моладзі – гэта місія святога Пятра: сцвярджаць веру. Гэта рэалізуецца не праз загады і прадпісанні, а праз дазвол іншым закрануць тваё сэрца ў адказ на тое, што прыходзіць да цябе. Я лічу, паколькі сам так жыву, цяжка любому рэалізаваць гэтую місію толькі з дапамогай галавы. Каб выканаць усё, ты павінен яе адчуць, а калі адчуеш, яна цябе ўразіць! Жыццё ўражвае. Думкі цябе ўражваюць.

У аэрапорце, дзе мяне сустракаў Прэзідэнт, да мяне прывялі дзіця – вельмі добрага маленькага хлопчыка. Такое дзіця… Распавялі, што калі гэты хлопчык перасякаў мяжу з Калумбіяй, яго мама памерла, і ён застаўся адзін. Яму каля пяці гадоў. Ён з Афрыкі, але ніхто не ведае, з якой краіны, ён не размаўляе на англійскай, партугальскай ці французскай – толькі на сваёй этнічнай мове. Яго ўсынавілі. Ён быў вельмі жывым дзіцём, развіваўся добра.

Жыццё нанесла ўдар па гэтым хлопцу, пакінула яго, бо яго мама памерла. Паліцэйскі перадаў яго ўладзе, якая павінна пра яго паклапаціцца. Гэта як аплявуха (ад жыцця), праз якую місія набірае колеры. Гэтая місія прыцягвае мяне. Можа таму, што я,… што гэта паходзіць з майго сэрца.




Я кажу моладзі: тое, што вы павінны зрабіць у жыцці, гэта ісці і карыстацца трыма мовамі: галавы, сэрца і рук. Тры гарманічныя мовы, якія робяць тое, што адчуваюць і думаюць. Думаюць, што адчуваюць, і робяць. І адчуваюць тое, што думаюць і што робяць.

Я не ведаю, як падсумаваць гэтую місію. З гэтым усім я іду на малітву і стаю перад Госпадам, часам засынаю, але давяраю Яму ўсё, што перажываю на місіі і прашу, каб Ён сцвярджаў веру праз мяне. Так я бачу сваю місію, так я перажываю".

*Паводле Credo*



## Бэнэдыкт XVI: шэсць гадоў пасля сыходу

**11 лютага 2013 года была агучана беспрэцэдэнтная навіна пра сыход Бэнэдыкта XVI з пасады Біскупа Рыма па прычыне ўзросту і праз жаданне працягваць жыць на пенсіі побач са сваім пераемнікам.**

Прайшло шэсць гадоў з дня, калі навіна пра намер пакінуць "служэнне Пятра" па прычыне здароўя і сталага ўзросту выбухнула на ўвесь свет як гром сярод яснага неба. Бэнэдыкт XVI агучыў гэта рашэнне на завяршэнне восьмага году свайго пантыфікату, паколькі больш не быў у стане – фізічна і духоўна – працягваць яго. Папскае служэнне, ажыццяўленне якога глыбока змянілася ў мінулым стагоддзі, звязана сёння з удзелам у шматлікіх сустрэчах і падзеях, з міжнароднымі паездкамі.

Бэнэдыкт XVI на пенсіі не прабывае ў ізаляцыі: моліцца, разважае, чытае і адказвае на лісты, якія яму прыходзяць, а таксама з ахвотай сустракаецца з людзьмі. Ён падтрымлівае і адносіны з Папам Францішкам: яны сустракаюцца і размаўляюць па тэлефоне.

*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# 90 гадоў Латэранскіх пагадненняў і стварэння Дзяржавы Ватыкан

**11 лютага 2019 года споўнілася 90 гадоў з дня стварэння Дзяржавы Ватыкан. Яна паўстала ў адпаведнасці з Латэранскімі пагадненнямі, заключанымі паміж Святым Пасадам і Італіяй 11 лютага 1929 года.**

Ратыфікаваны 7 чэрвеня 1929 года дакумент забяспечыў прызнанне Італьянскім Каралеўствам уласнасці і выключнага суверэнітэту Святога Пасада на вызначанай тэрыторыі.

Тэрмін "Святы Пасад" шырэйшы за "Горад-Дзяржава Ватыкан" і належыць да Біскупа Рыма як найвышэйшай улады ў Касцёле і галавы Калегіі біскупаў. Гэты тэрмін адносіцца таксама да Дзяржаўнага сакратарыяту і розных дыкастэрый Рымскай курыі, якія падтрымліваюць Папу ў яго кіраўнічай місіі. Святы Пасад з'яўляецца юрыдычнай асобай у кантэксце міжнароднага права, падпісвае дамовы, прызначае і прымае дыпламатычных прадстаўнікоў.

Дзяржава Ватыкан выступае інструментам незалежнасці Святога Пасада і Каталіцкага Касцёла ад любой свецкай улады, што дазваляе Пантыфіку свабодна выконваць паслугу кіравання Паўсюдным Касцёлам. Як і Святы Пасад, Ватыкан з'яўляецца суб'ектам міжнароднага права. Іх звязвае асоба Святога Айца.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*


LA GAZZETTA DI PUGLIA - CORRIERE DELLE PUGLIE
o storico conflitto fra Chiesa e Stato Italiano è riso
Il genio di Mussolini ha superato ostacoli finora insormontab

# Дзяржсакратар пра "пазітыўны нейтралітэт" Святога Пасаду

**Кардынал П'етра Паралін прыняў удзел у канферэнцыі на тэму "Святы Пасад і Дзяржава Ватыкан у новым міжнародным кантэксце", якая прайшла з нагоды 90-годдзя Латэранскіх пагадненняў.**

На думку Дзяржсакратара, галоўным сучасным выклікам з'яўляецца мір. "У моцна фрагментаваным і канфліктным свеце, дзе, здаецца, знікае прынцып мультыралізму, Святы Пасад павінен працягваць рабіць унёсак на карысць абароны годнасці чалавека і будавання мірных супольнасцяў і краін", – сказаў ён.

Па словах кардынала, у сістэме міжнародных адносін Апостальская Сталіца выконвае "ролю пасланніка", што нясе добрую вестку і клапоціцца пра абарону правоў чалавека, а каб "забяспечыць чалавецтву годную будучыню", яна знаходзіцца ў "няспынным дыялогу" з дзяржавамі.

Праз свой "пазітыўны нейтралітэт" Апостальская Сталіца не абмяжоўваецца стаяннем ля акна, але садзейнічае будаванню дыялогу паміж бакамі, дадаў Дзяржсакратар Яго Святасці Папы.

Канферэнцыя на тэму "Святы Пасад і Дзяржава Ватыкан у новым міжнародным кантэксце" была арганізавана Інстытутам павышэння кваліфікацыі ў галіне кананічнага, касцельнага і ватыканскага права пры рымскім універсітэце "LUMSA".

Латэранскія пагадненні былі заключаны паміж Апостальскай Сталіцай і Італіяй 11 лютага 1929 года. Гэта сістэма дамоваў прывяла да ўзнікнення Дзяржавы Ватыкан, урэгулявання спрэчных пытанняў паміж бакамі, вызначэння міжнароднага статусу Святога Пасаду.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*




# Зварот арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча ў сувязі са стаўбцоўскай трагедыяй

**"Шукаючы прычыны падобных трагедый, недастаткова засяроджвацца толькі на сацыяльных праблемах ці сямейных абставінах, у тым ліку на сямейным гвалце, супраць якога Касцёл выступаў і выступае", – піша арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч у сваім звароце з нагоды трагедыі, якая 11 лютага адбылася ў Стоўбцах.**

## Зварот Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, Старшыні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі, з нагоды стаўбцоўскай трагедыі

### Quo vadis Belarus? – Куды ідзеш, Беларусь?

11 лютага 2019 года, калі Каталіцкі Касцёл у літургічны ўспамін Маці Божай Лурдскай адзначае Дзень хворых, у школе №2 г. Стоўбцы здарылася трагедыя: навучэнец 10 класа нажом забіў настаўніцу і аднаго вучня і моцна параніў яшчэ дваіх школьнікаў.

Мы пытаемся ў сябе: як такое магло здарыцца ў спакойнай і памяркоўнай Беларусі? Як хлопец, каторага характарызуюць як неканфліктнага, мог здзейсніць такое жудаснае злачынства? Хто ў гэтым вінаваты?

Спадзяёмся, што з часам следчыя органы выявяць матывы трагедыі. Сёння, аднак, такая складаная сітуацыя змушае нас засяродзіцца на духоўных прычынах таго, што здарылася ў Стоўбцах.

Яшчэ зусім нядаўна мы дзівіліся з таго, што ў амерыканскіх школах, супермаркетах і на вуліцах страляюць, забіваюць і калечаць людзей, у тым ліку і дзяцей. Але падобная практыка становіцца рэальнасцю жыцця мірнай Беларусі. Сродкі масавай інфармацыі ўсё часцей паведамляюць пра рознага кшталту злачынствы, здзейсненыя ў нашым грамадстве: маці выкідае на сметнік немаўлятка, сын забівае бацькоў, малады чалавек з бензапілой нападае на жанчыну ў гандлёвым цэнтры. Цяпер трагедыя ў стаўбцоўскай школе...

Шукаючы прычыны гэтых і падобных трагедый, недастаткова засяроджвацца толькі на сацыяльных праблемах ці сямейных абставінах, у тым ліку на сямейным гвалце, супраць якога Касцёл выступаў і выступае. На наш погляд, прычына больш глыбокая.

> ***Тры пакаленні атэізацыі не прайшлі дарма. У выніку гэтага працэсу чалавек адарваўся ад каранёў духоўнага жыцця – ад Евангелля і вучэння Касцёла.***

За апошнія тры дзесяцігоддзі сітуацыя змянілася, але не настолькі, каб максімальна спрыяць сапраўднаму духоўнаму адраджэнню.

На якіх асноватворных прынцыпах выхоўваецца сёння моладзь? На яе выхаванне найбольшы ўплыў цяпер маюць не сям'я і школа, а Інтэрнэт і сродкі масавай інфармацыі. Што там бачаць дзеці? Найчасцей гвалт, забойствы, алкаголь, наркотыкі, амаральны стыль жыцця і да т.п.

Сёння мы молімся аб Божай міласэрнасці для нявінна загінулых і выздараўленні параненых, а таксама спачуваем іх блізкім і знаёмым.

Разам з тым, калі мы шукаем прычыны гэтай жудаснай трагедыі, то перадусім павінны звярнуць увагу на праблему духоўнага выхавання маладога чалавека. Гэта той падмурак, на якім павінна будавацца будучыня моладзі, як і будучыня нашай Бацькаўшчыны.

Без падмурку нельга збудаваць дом. Такая пабудова падобная да дома, узведзенага на пяску, які змыюць патокі вады і разбураць вятры, як кажа Хрыстус. Без духоўнага падмурку няма будучыні.

> ***У такой складанай сітуацыі мы павінны задаца пытаннем: "Quo vadis, Belarus? – Куды ідзеш, Беларусь?"***

Я звяртаюся да ўсіх людзей добрай волі, да грамадскіх і рэлігійных арганізацый, а таксама да ўладаў нашай Бацькаўшчыны. Учынім усё магчымае для належнага здаровага выхавання маладога пакалення на духоўных каштоўнасцях з мэтай дасягнення шчаслівай будучыні нашай краіны!

Няхай нас усіх у гэтым блаславіць Бог і дапамагае Марыя – нябесная Апякунка Беларусі.

**Мінск, 11 лютага 2019 г.**

*Catholic.by*

*Фота Аляксандры Шчыглінскай*

# АДКРЫТЫ ЛІСТ АРЦЫБІСКУПА ТАДЭВУША КАНДРУСЕВІЧА

## ДА СТАРШЫНІ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ І МІНІСТРА АХОВЫ ЗДАРОЎЯ РЭСПУЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь АНДРЭЙЧАНКУ У.П.**

**Міністру аховы здароўя Рэспублікі Беларусь МАЛАШКУ В.А.**



**Паважаныя Уладзімір Паўлавіч і Валерый Анатольевіч!**

У апошнія дні ў розных СМІ з'явілася інфармацыя, што Міністэрства аховы здароўя прапануе першую спробу ЭКА* зрабіць бясплатнай *(пар. minzdrav.gov.by)*.

Каталіцкі Касцёл як другая па колькасці вернікаў канфесія ў нашай краіне пасля Праваслаўнай Царквы мае шэраг аргументаў супраць таго, каб фінансаваць першую спробу ЭКА за кошт бюджэту.

І гэтыя аргументы нельга проста так праігнараваць, бо яны датычацца будучыні нашай краіны:

**1.** Вучэнне Каталіцкага Касцёла супраць ЭКА, таму што гэтая працэдура парушае святасць акту зачацця, як гэта задумана Стваральнікам. Зачацце становіцца вынікам супрацоўніцтва паміж жанчынай і ўрачом, і гэта наносіць удар па бацькоўству, таму што бацька фактычна аказваецца выключаным з працэсу зачацця свайго дзіцяці. Ёсць шэраг даследаванняў, што сведчаць, як цяжка маці і бацьку наладзіць нармальныя адносіны са сваім дзіцём, зачатым "у прабірцы".

**2.** Працэдура ЭКА немагчымая без знішчэння эмбрыёнаў, кожны з якіх мае такое ж права на жыццё, як і кожны з нас. Паводле афіцыйных звестак, штогод у Беларусі праводзіцца больш за 3 тыс. поўных скончаных цыклаў дапаможных рэпрадукцыйных тэхналогій (ДРТ).

У выніку гэтай працэдуры нараджаецца каля адной тысячы дзяцей у год. Адпаведна, як мінімум 2/3 зачатых дзяцей гіне.

Варта адзначыць, што рэальная інфармацыя пра эфектыўнасць гэтай працэдуры недаступная, у розных крыніцах называюцца розныя лічбы. Акрамя таго, пры шматлікіх праграмах ДРТ выпрацоўваюцца так званыя запасныя эмбрыёны, якія пасля выкарыстоўваюцца для даследаванняў, знішчаюцца або замарожваюцца для далейшых спробаў ЭКА. Міф пра тое, што можна правесці ЭКА, маючы толькі адну яйцаклетку, – хлусня: ніводная клініка на такое не пагодзіцца. Аднак інфармацыя пра гэта практычна недаступная.

Узнікае натуральнае пытанне: колькі эмбрыёнаў знаходзіцца ў Беларусі ў лабараторыях крыякансервацыі? Колькі беларускіх бацькоў пакутуюць ад таго, што іх эмбрыёны замарожваюцца і знішчаюцца?

**3.** ЭКА – гэта велізарны бізнес на чалавечай бядзе, таму прадстаўнікамі гэтага бізнесу і звязанымі з імі медыцынскімі структурамі замоўчваюцца цяжкія, часам катастрафічныя наступствы адпаведнай працэдуры для жанчыны, а таксама дадзеныя пра слабае здароўе, а часам інваліднасць дзяцей, зачатых ненатуральным чынам. Лячэнне такіх жанчын і дзяцей гэты бізнес ужо не аплачвае: яно кладзецца на плечы падаткаплатнікаў, гэта значыць, нас з вамі.

Акрамя таго, уцягванне камерцыйных структур і фінансаванне іх такім чынам за сродкі бюджэту прывядзе да яшчэ большай карупцыі і непразрыстасці ў сферы медыцыны, бо ЭКА – гэта велізарная колькасць дарагіх медыкаментаў, аналізаў і абследаванняў.

**4.** Таксама ўзнікае вялікае пытанне, ці змогуць дзеці, зачатыя пры дапамозе гэтай працэдуры, самастойна стаць бацькамі. Даследаванні на дадзеную тэму альбо адсутнічаюць, альбо недаступныя грамадскасці. Аднак існуе вялікая верагоднасць таго, што такім дзецям у будучыні таксама спатрэбіцца дапамога ДРТ, і такім чынам атрымліваецца замкнёнае кола.

**5.** ЭКА адкрывае шырокія магчымасці для сурагатнага мацярынства і гандлю дзецьмі. Па сваёй сутнасці сурагатнае мацярынства – гэта абмен дзіцяці ва ўлонні маці на грошы. Варта памятаць і пра тое, што ў заходніх краінах да ЭКА і паслуг сурагатных маці звяртаюцца прадстаўнікі нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыі, якія вырашылі стаць бацькамі.

**6.** Фінансаванне гэтай бесчалавечнай працэдуры за кошт бюджэту робіць нас усіх адказнымі за падобнае зло, з чым мы не можам пагадзіцца.

Аргументы падтрымкі росту дэмаграфічных паказчыкаў пры дапамозе працэдур ДРТ, якія прыводзяць іх прыхільнікі, выглядаюць смеху вартымі. Цяпер у Беларусі нараджаецца штогод каля 100 тысяч дзяцей: натуральна, што адна тысяча дзяцей, народжаных у выніку працэдур ДРТ, праблему дэмаграфіі ніякім чынам не вырашыць. З іншага боку, трэба задумацца пра 30 000 абортаў, якія па афіцыйнай статыстыцы адбываюцца кожны год у нашай краіне.

**7.** Варта памятаць, што ЭКА стала адпраўным пунктам для генетычнай інжынерыі, кланавання, прэ-імплантацыйных генетычных дыягназаў (адсяванне эмбрыёнаў), збору ствалавых клетак эмбрыёнаў, даследаванняў па дзецях ад трох бацькоў і гібрыдах чалавека і жывёл.

**8.** Дзіця – гэта не рэч, права валодання якой даецца бацькам. Ніхто не можа патрабаваць для сябе такіх правоў. Бясплоддзе – гэта вялікі цяжар і суровае выпрабаванне для сужэнцаў, але чалавечая годнасць не можа быць прынесеная ў ахвяру дзеля мэты валодання дзіцём.

Урачы павінны імкнуцца вылечыць бясплоддзе, а не замяняць Богам дадзены дар плоднасці медыцынскімі тэхналогіямі, якія ставяць пад пагрозу чалавечую годнасць і прыводзяць да знішчэння тых эмбрыёнаў, якія не выкарыстаны для працэдуры.

**9.** Для бяздзетных сужэнцаў заўсёды застаюцца актуальнымі ўсынаўленне, патранатнае выхаванне або іншыя формы дапамогі дзецям, якія засталіся без апекі бацькоў (у беларускіх дамах-інтэрнатах знаходзяцца 3,4 тысячы дзяцей-сірот, пазбаўленых бацькоўскай апекі). Святое Пісанне неаднаразова заклікае клапаціцца пра сірот.

Сур'ёзнай альтэрнатывай ЭКА з'яўляюцца метады распазнавання плоднасці (МРП), якія на сённяшні дзень практычна цалкам ігнаруюцца беларускім Міністэрствам аховы здароўя. Гэтыя метады нейтральныя з маральнага пункту гледжання, бяспечныя для здароўя, умацоўваюць сужэнства і ў многіх выпадках па эфектыўнасці пераўзыходзяць ЭКА.

Каталіцкі Касцёл мае вялікі вопыт у распаўсюджванні МРП і можа аказаць метадалагічную дапамогу ў гэтым пытанні.

Неабходна шырокае інфармаванне пра тое, што часта бясплоддзе ўзнікае па прычыне папярэдніх абортаў, выкарыстання гарманальнай кантрацэпцыі і спіраляў. Бясплоддзе можа наступаць і ў выніку выпадковых палавых сувязяў і венерычных захворванняў, менавіта таму Касцёл заўсёды заклікае да цнатлівасці да шлюбу і вернасці ў шлюбе. Нельга забывацца і пра духоўныя прычыны, якія праяўляюцца ў тым, што сужэнцы плануюць нараджэнне толькі аднаго, максімум – дваіх дзяцей і забываюцца пра біблійны заклік "пладзіцца і размнажацца".

З павагай і малітвай аб прыняцці этычнага рашэння па гэтым актуальным пытанні, каб пад маркай вырашэння дэмаграфічных праблем не развіваўся сумнеўны бізнес.

*Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі*



*Экстракарпаральнае апладненне або ЭКА – гэта метад лячэння цяжкіх выпадкаў бясплоддзя, пры якіх зачацце натуральным шляхам немагчыма. Назва тэхналогіі адбываецца ад двух лацінскіх слоў extra (вонкавы) і corpora (цела). Яно як нельга лепш тлумачыць, што такое ЭКА і сутнасць методыкі, пры якой працэс апладнення праходзіць па-за целам жанчыны.

# Вернікі з Плюсаў: “Мы і ўявіць сабе не маглі, што будзем хаваць свайго пробашча”

**12 лютага ў Плюсах Браслаўскага дэканата развіталіся з пробашчам парафіі Святой Тройцы ксяндзом Казімірам Акушкам, які адышоў да Пана 9 лютага.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Святар нарадзіўся 21 кастрычніка 1959 года ў вёсцы Паляны Гудагайскай парафіі Гродзенскай дыяцэзіі. Бацькі былі шчырымі вернікамі, гэта і паўплывала на яго рашэнне стаць святаром. Трэба адзначыць, што ў тыя часы прыняць падобнае рашэнне было няпроста.

Ва ўзросце 27 гадоў Казімір Акушка паступіў у Вышэйшую духоўную семінарыю ў Рызе. Святарскае пасвячэнне атрымаў 19 мая 1991 года ў Гродне з рук арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча. У Плюсах прайшла асноўная частка святарскага служэння ксяндза Казіміра.

Якім запомніўся святар вернікам? “Каталіцкі Веснік” пагутарыў са старшынёй парафіяльнай рады ў Плюсах **Уладзімірам Сташанам** і верніцай гэтай парафіі **Ірынай Беспразваннай**.

– Ён прыехаў да нас у 2002 годзе, – кажа спадарыня Ірына. – Больш за 16 гадоў адслужыў тут. Быў для нас як свой. Заўсёды вясёлы, меў добрае пачуццё гумару. Ён любіў людзей, быў чалавекам простым, які заўсёды гатовы дапамагчы.

А яшчэ яму падабалася, калі былі рэлігійныя святы, і ў касцёле збіралася шмат людзей. Ён заўсёды тады дзякаваў вернікам, што прыйшлі ў храм.

– Заўжды ўспамінаў тых, хто яму дапамагаў, – працягвае Уладзімір Сташан. – Кожную нядзелю згадваў тых, хто яму хоць нейкую дапамогу аказаў. Маліўся за ўсіх. Да кожнага меў свой падыход. Любіў паразмаўляць з людзьмі пра іх справы.

– За кожную паслугу дзякаваў людзям, за ўсе тыя прадукты, якімі з ім дзяліліся. Можна сказаць, проста кланяўся ўсім кожную нядзелю за гэта, – успамінае Ірына Беспразванная.

**– Даўно ён хварэў? Была якая цяжкая хвароба?**

– Не. Толькі апошнім часам быў прыхварэў, недзе крыху больш за месяц таму, – прыгадвае Уладзімір Сташан, – лячыўся ён больш сам, сваімі сродкамі. Трэба сказаць, не вельмі ён любіў да дактароў звяртацца.

– Так, не любіў ён, каб яго даглядалі, – працягвае спадарыня Ірына. – Мы і ў думках не дапускалі, што ўсё так хутка можа скончыцца. Ён казаў: “Колькі мне Бог даў, столькі пахварэю, вылечуся”.

– Яму ж яшчэ і шасцідзесяці няма. Вельмі актыўны быў, не сядзеў на месцы. Літаральна два месяцы пахварэў толькі, – кажа пра свайго пробашча спадар Уладзімір.

– Гэта вялікі ўдар для нашай парафіі, – адзначае спадарыня Ірына. – Мы і ўявіць сабе не маглі, што будзем хаваць свайго пробашча.

**– Гэта было яго жаданне быць пахаваным каля касцёла?**

– Не! Што вы?! – пярэчыць спадарыня Ірына. – Такой размовы нават не вялося. Так вырашылі ўжо пасля яго смерці. Біскуп прыняў такое рашэнне, парафія гэта падтрымала. Як я ўжо казала, мы не думалі, што нашага ксяндза Казіміра будзем хаваць тут, каля храма. Нават і думак такіх у нас не было. Ён жа яшчэ адносна малады быў.

– У нас і старэйшыя ксяндзы працавалі, – працягвае Уладзімір Сташан, – але з’язджалі ад нас. Адзін памёр ужо ў Польшчы.

Так атрымалася, што ксёндз Казімір Акушка назаўсёды застаўся ў Плюсах. Яго пахавалі каля касцёла, побач з магілай пробашча гэтай парафіі ксяндза Пятра Вайцякунаса, які памёр у сорак чатыры гады амаль стагоддзе таму, у 1920 годзе.

**– А ці вялікая парафія ў Плюсах?**

– Была вялікая, – кажа Ірына Беспразванная, – але цяпер нашмат зменшылася. Старэйшыя людзі паміраюць, моладзь выязджае. Мала моладзі ў нас.

Уладзімір Сташан працягвае:

– Калі па тэрыторыі браць, то яна вялікая. Шмат вёсак у яе ўваходзіла, больш за трыццаць. Але вёскі знікаюць.

**– У вас побач мяжа з Латвіяй. Яна ў вас тут адкрытая?**

– Так, – адказвае спадарыня Ірына, – у выходныя прыязджаюць людзі. На Імшу нават прыязджалі. Бо шмат родных нашых жыве тут, блізка за мяжой. Яны добра ведалі ксяндза Казіміра, тут шмат чые сваякі пахаваныя. Людзі прыязджалі маліцца за іх. І ксёндз таксама за іх маліўся, ён шмат каго ведаў з латышскага боку. Заўсёды вельмі рады быў ім, гучна вітаў іх у касцёле.



Са смерцю свайго пробашча парафія ў Плюсах асірацела. Застаецца вялікім пытаннем, ці з’явіцца тут іншы пробашч. Хутчэй за ўсё, у найбліжэйшы час не. Бо, як адзначыў біскуп Алег на пахаванні ксяндза Казіміра, “зараз я не магу адназначна адказаць вам, ці будзе ў вас свой святар. Маем пра гэта прасіць у малітве”. Цяпер у дыяцэзіі не хапае святароў, таму пакуль хтосьці з ксяндзоў будзе даязджаць сюды на Імшу. Хоць ехаць у Плюсы з таго ж Браслава не так і блізка, амаль трыццаць кіламетраў. Вернікі сумна жартуюць, што сюды лягчэй даехаць святару з суседняй Латвіі, калі б не было мяжы.

Лёс храма ў Плюсах быў няпросты. Пабудаваны на пачатку XX стагоддзя, ён быў асвечаны ўжо падчас Першай сусветнай вайны, у 1915 годзе. Тады парафія ў Плюсах стала самастойнай адзінкай. Але Другая сусветная вайна не пашкадавала храм: была разбураная вежа, а пасля вайны камуністычныя ўлады храм у вернікаў забралі. Не шкадаваў лёс і святароў: ксёндз Ян Жук быў вывезены з часткай сваіх парафіянаў у Сібір у 1941 годзе, яго наступніка ксяндза Францішка Більшу арыштавалі камуністы ў 1949 годзе.

Касцёл вярнулі парафіянам толькі ў 1989 годзе. Храм адрамантавалі і паўторна асвяцілі ў 1991-ым. З той пары тут увесь час працавалі святары і гучала Божае слова.

Цяпер, як і паўсюль у Беларусі, імклівa змяншаецца колькасць сельскага насельніцтва. Старэйшыя людзі паміраюць, моладзь у пошуках лепшай долі з’язджае ў гарады, а то і наогул з краіны. З’язджае, хоць вакол вельмі прыгожыя, проста казачныя мясціны!

Касцёл у Плюсах перажыў дзве сусветныя вайны, адрадзіўся пасля перыяду ваяўнічага атэізму. Аднак паўстае пытанне, ці выстаіць храм у наш мірны час?! Застаецца толькі маліцца Богу і спадзявацца, што людзі адсюль не з’едуць, і гэты край канчаткова не апусцее.

## Дзякуем за веру, за шчодрасць і адданасць Богу і Касцёлу

**Хвала Хрысту!**

Парафіяне былога лявонпальскага касцёла Мёрскага раёна з вялікам смуткам успрынялі ашаламляльную вестку пра смерць **ксяндза Казіміра Акушкі**.

У пачатку 2000-х гадоў ксёндз Казімір Акушка даязджаў у касцёл у Лявонпаль. Мы памятаем яго як сціплага, ціхага, чулага святара, каторы заўважаў душэўны стан кожнага прысутнага ў касцёле чалавека. Ён паказаў прыклад адказнага духоўнага клопату пра простых людзей, служыў ім з любоўю і меў вялікае сэрца. Таленавіты святар з добрай і чулай душой, з унутраным гарэннем, натхненнем. Такім ён будзе ў нашай памяці...

Так хочацца сказаць ксяндзу Казіміру тыя шчырыя словы ўдзячнасці, якія, на жаль, не сказалі мы пры жыцці: дзякуем за веру, за шчодрасць і адданасць Богу і Касцёлу!

Мы спачуваем усім тым, хто перажывае смерць ксяндза Казіміра Акушкі, яго родным, блізкім, яго асірацелым парафіянам з Плюсаў, якія страцілі свайго шматгадовага клапатлівага Пастыра.

Словамі малітвы хочам звярнуцца да Пана Бога:

*“Пане! Учыні, просім, каб твой слуга, ксёндз Казімір Акушка, якога ў зямным жыцці Ты паклікаў да святарскай годнасці, радаваўся вечна ў нябеснай хвале. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн”.*

***Алена Сакалоўская**, ад імя вернікаў з вёсак Лявонпаль, Дэмскія, Паташня (Мёрскі раён)*



# Пра каханне і блізкасць

**Сёння пра каханне. Асабліва незразумела, што гэта такое... Гармоны, “ружовыя акуляры” і кузуркі, якія лётаюць у раёне страўніка?**

**Таццяна Палхоўская**, *псіхолаг*



Гэта няясна... Тое, што называецца закаханасцю? У беларускай мове ўвогуле добра падзеленыя падобныя паняцці: закаханасць, каханне, любоў.

З любоўю ўвогуле разабрацца нескладана. Можна любіць Бога, Радзіму, бацькоў, сяброў, катлеты, ката свайго, зрэшты, ды па вуліцах шпацыраваць. А вось што з каханнем? З паняццем, якое характарызуе адносіны менавіта мужчыны і жанчыны як пары? Тэма няпростая і выклікае шмат пытанняў. Бо ў каханні заўжды будуць эмоцыі. Цэлы вір эмоцый, а часам процілеглых: ад закаханасці, захаплення, цікавасці, жарсці праз крыўды, непаразуменні, халоднасць, рэўнасць да цяпла, клопату, прыняцця. Ці да процілеглага – незадаволенасці, гневу, нянавісці.

Складана сказаць, чаму менавіта так. Думаю, што паколькі няма двух аднолькавых людзей на зямлі, то і пары, створаныя намі, усе будуць адрозніваца сваімі стасункамі. І ўсе мы ў выніку будзем будаваць нешта сваё.

Але нельга не заўважаць і асобныя тэндэнцыі ў адносінах. Прынесеная з казак, фільмаў і нашых мараў вера ў міфічную другую палову, якая, безумоўна, ёсць і якую абавязкова трэба знайсці. Як яна мусіць выглядаць і па якіх крытэрыях яе распазнаць – казкі не кажуць, таму круцімся як можам: шукаем поўнага ўзаемаразумення, прыняцця, клопату з боку нашага партнёра. Ствараем цэлы спіс характарыстык і прымяраем іх на чалавека, які спадабаўся. Калі падыходзіць, то цудоўна, калі не – то патрываем!

Але ўсё ж “ружовыя акуляры” калісьці спадаюць, хрустальны абутак цісне, і трэба сустрэцца з рэальным чалавекам, з яго слабасцямі і асаблівасцямі. І без усялякіх фантазій, якія мы ўжо паспелі яму прычапіць. І вось тут пытанне выбару: а што рабіць далей? Кідацца шукаць іншую другую палову (бо гэта бракаваная) ці паспрабаваць нанова пазнаёміцца з рэальнай асобай, якая побач з намі?

Псіхолагі ніякіх канкрэтных адказаў не даюць, яны ўвогуле паняцце ‘каханне’ не любяць. Бо працаваць з ім няпроста: у каго не спытай, кожны з нас укладзе ў гэта слова рознае, сваё. А пасля будзем смяротна мучыцца, што ён казаў “кахаю”, а зусім не так робіць і не тое. Дэшыфроўка не адбываецца, вынік слязлівы, і цяпер “каханне толькі ў фільмах”.

На кансультацыях мы часцей за ўсё выкарыстоўваем слова “блізкасць”, каб абазначыць цяпло, цікавасць, клопат, эмпатыю, радасць (спіс можам працягваць) ад кантакту дваіх. А блізкасць – яна як канцы гумкі. Часам зусім побач, часам нацягваецца – адчуваем аддаленне. І гэтыя расцягванні-сцісканні могуць нават за адзін дзень адбыцца. Не варта палохацца, крыўдзіцца, збіраць валізы і дзяліць ката. Проста так бывае. Проста ніхто не можа быць намі. Проста блізкасць таму і каштоўная, што яна падарунак, а не штодзённая дадзенасць.

Жадаю вам, дарагія чытачы, адчуваць сапраўдную блізкасць і не баяцца цяжкасцяў!

Дзякуй за ўвагу!



Малюнак са старонкі http://rv-blr.com

## У Бягомльскім Цэнтры “Светач” прайшоў семінар “Межы жыцця”

**Падзея адбылася ў нядзелю 17 лютага, яна была прысвечаная псіхалогіі і ўзаемаадносінам паміж людзьмі.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

У семінары прынялі ўдзел больш за трыццаць чалавек, сярод якіх былі рэабілітанты Цэнтра, святары, сёстры законныя, проста зацікаўленыя асобы.

Хоць Цэнтр і займаецца аздараўленнем людзей залежных, паўдзельнічаць у гэтым мерапрыемстве было цікава ўсім. Бо менавіта з псіхалагічных праблем і пачынаецца залежнасць чалавека ад дрэнных звычак. Таму вельмі важна разумець прычыны іх узнікнення.

З гэтай мэтай у Бягомль прыехалі псіхолагі з Мінска Ульяна Уласюк, Алена Левянкова, Валянціна Кахновіч і Ігар Лосеў. Спадар Ігар з'яўляўся галоўным арганізатарам мерапрыемства. Ён працуе ў Мінску і раней пакутваў ад алкагольнай залежнасці, а зараз сам дапамагае залежным людзям стаць на шлях выздараўлення.

Як адзначылі стваральнікі і кіраўнікі “Светача” Таццяна і Уладзімір Шчэпіны мерапрыемства атрымалася, і яны надалей плануюць праводзіць іх двойчы на год.

Падрабязней пра гэту падзею чытайце і глядзіце на сайце нашай газеты.

***

Цэнтр дапамогі залежным ад алкаголю і наркотыкаў “Светач” працуе пры Бягомльскай каталіцкай парафіі з ліпеня 2016 года. За гэты час праз Цэнтр прайшлі 54 чалавекі: 40 мужчын і 14 жанчын з розных куткоў Беларусі. Амаль палова з іх захоўвае цвярозы лад жыцця, што лічыцца вельмі добрым паказчыкам.

У Цэнтр могуць звяртацца людзі розных канфесій, а таксама і нявернучыя. Умова адна – выкананне правілаў унутранага распарадку Цэнтра і цвёрдае жаданне кінуць піць. Больш падрабязную інфармацыю можна даведацца па тэл.: +375-33-345-52-78; +375-29-532-68-66; +375-44-734-64-09, а таксама на сайце Цэнтра svetotch.by



Семінар пачаўся з сумеснай малітвы.

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Юлія Шпаковіч** *(Зямцы)*, **Вашкевіч М.М.** *(Навасёлкі-2)*, **Гігіна Г.М.** *(Камарова)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Ірэна Руткоўская** *(Радзюкі)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **вернікі парафіі Езуса Міласэрнага** *(Віцебск)*, **Алена Балай** *(Мосар)*, **Караліна Лаўрыновіч** *(Мосар)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Людміла Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Лоўкіс Л.В.** *(Навасёлкі)*, **Яўгенія Гунько** *(Барысаў)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Розель Я.І.** *(Ашмяны)*, **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск)*, **Ганна Танана** *(Коўзаны)*, **Лапунінскі Г.Г.** *(Коўзаны)*, **Соф'я Чырвінская** *(Язні)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры)*, **Валянціна Сапель** *(Браслаў)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Ганна Анішкевіч** *(Паставы)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Даната Рудок** *(Янкова)*, **Наталля Насура** *(Мінск)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Вінцэнты Навіцкі** *(Браслаў)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя*
*“Каталіцкага Весніка”*

# Перамога жыцця над смерцю – вернікі ўшанавалі памяць ахвяраў росіцкай трагедыі



**У суботу 16 лютага больш за дзве сотні вернікаў наведала вёску Росіцу, што ў Верхнядзвінскім раёне, каб ушанаваць гадавіну росіцкай трагедыі.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

76 гадоў таму, з 16 па 18 лютага нацысцкія карнікі спалілі 1528 жыхароў Росіцы. Разам з імі ў агні загінулі і 2 святары – Антоні Ляшчэвіч і Юры Кашыра. Гэту трагедыю апісала ў сваёй кнізе "Будзь воля Твая" пісьменніца Ірына Жарнасек. У свой час яна пазнаёмілася з сястрой Ядзвігай Віршутай, для якой ксёндз Антоній выпрасіў у карнікаў жыццё.

*– Праплакаўшы дзень разам з ёй над гэтай гісторыяй, мне прыйшлося плакаць над гэтай гісторыяй яшчэ вельмі шмат, нават на гады гэта расцягнулася. Мне хацелася, каб як мага больш людзей даведалася пра гэту трагедыю,* – распавядае спадарыня Ірына. *– Мы прыязджалі з сястрой Ядзвігай сюды, калі касцёл быў яшчэ вельмі занядбаны. Тады прыйшла думка, распавядаць пра гэту вялікую любоў благаслаўлёных нашых айцоў, пра іх перамогу над смерцю. Бо гэта іх перамога разам з Хрыстом над смерцю.*

Распачаліся ўрачыстасці а 11 гадзіне ў росіцкім касцёле Святой Тройцы з выстаўлення Найсвяцейшага Сакраманту. Святая Імша распачалася а 12 гадзіне, яе цэлебраваў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.

Напачатку богаслужэння па традыцыі ўсіх святароў і пілігрымаў прывітаў пробашч касцёла ў Росіцы айцец Чэслаў Курэчка. Ён адзначыў, што роўна 76 гадоў таму, 16 лютага на гэтай падлозе стаяла больш за тысячу жыхароў Росіцы, якія рыхтаваліся да свайго апошняга шляху да вечнасці. Святар падзякаваў усім за памяць пра гэтую ахвяру, а Богу – за вясенняе надвор'е, якое стаяла ў гэты дзень. Ён адзначыў, што гэта дае нам усім магчымасць больш часу прысвяціць малітве.

У сваім уступным слове біскуп Алег адзначыў, што ў гэтым годзе мы будзем святкаваць дваццацігадовы юбілей Віцебскай дыяцэзіі, таксама ў гэтым годзе спаўняецца дваццаць гадоў аднаўлення касцёла ў Росіцы.

Іерарх павіншаваў таксама архімандрыта Сяргея Гаека, Апостальскага візітатара для грэка-католікаў Беларусі, які таксама прысутнічаў на ўрачыстасці, з сямідзесяцігадовым юбілеем, а таксама з дваццацігадовым юбілеем служэння ў Беларусі. З гэтай нагоды ардынарый падараваў айцу Сяргею абраз.

Архімандрыт лічыць, што ў 1839 годзе царскі ўрад не ліквідаваў грэка-каталіцкую царкву, ён толькі знішчыў яе структуры. Таму гэта царква напрыканцы ХХ стагоддзя змагла адрадзіцца тут, на Беларусі.

*– І зараз пад Полацкам ёсць руіны рэзідэнцыі мітрапалітаў,* – адзначыў айцец Сяргей. *– Гэта сведчыць пра тое, што мы тут заўжды былі. Мы толькі гадоў трыццаць таму аднавілі душпастарскую служэнні. Калі святы Айцец прыслаў мяне сюды дваццаць пяць год таму, ужо шмат парафій было арганізаваных, нават зарэгістраваных у дзяржаўных структурах. Мы працягваем працу на гэтым полі, на гэтай ніве, на якой мы знаходзімся.*

Слова да вернікаў прамовіў айцец марыянін з Жодзіна Міхаіл Цвячкоўскі. Ён назваў тыя падзеі і трагедыяй, і перамогай над смерцю гэтых двух святароў, якія маглі захаваць сабе жыццё, але да канца засталіся разам са сваімі парафіянамі.

Айцец Міхаіл паразважаў над тым, чаму Бог дапускае зло ў гэтым свеце. Ён адзначыў, што не Бог жадае людзям зла, але самі людзі вельмі часта абіраюць злачынны шлях. Праблема зла знаходзіцца ў сэрцы чалавека. На думку святара, Бог дае чалавеку выбар, заўсёды ёсць два шляхі, дабра і зла, і Ён запрашае выбіраць дабро. І не заўсёды чалавек паслухмяны Богу, не заўсёды выбірае тое, што добрае. Вельмі часта ён ад Бога адыходзіць. І грэх чалавека робіць тое, што з'яўляюцца шматлікія няшчасці.

*– І гэта не значыць, што Бог так запланаваў, гэта чалавек так выбірае. Можна паглядзець па камуністычнай сістэме быўшай, калі адкінулі Бога, і куды гэта давяло? Да вялікіх катастрофаў, да шматлікіх людскіх ахвяраў, бо з чалавекам не лічыліся ўжо. Як асоба, чалавек перастае быць важны. Бог ніколі не перакрэслівае асобы і заўсёды запрашае жыць у свеце дзесяці Божых прыказанняў. Гэта не абмежаванне чалавека, гэта прастора, у якой чалавек з'яўляецца свабодным. Можна жыць і без гэтых запаведзяў, але тады ўжо чалавек увходзіць у несвабоду, бо адкідвае божае. Гэта праўда, якая пацверджаная стагоддзямі,* – адзначыў святар.

Пасля Імшы жалобная працэсія накіравалася на тое месца, дзе 76 гадоў таму загінулі бязвінныя людзі разам са сваімі святарамі. На чале працэсіі неслі крыж як памяць пра тое, што ў 1943 годзе ксёндз Юрый Кашыра таксама з крыжом узначаліў шлях вернікаў да месца трагедыі. Доўгі час гэта месца было занядбанае, і толькі дзякуючы працы святароў тут паўстаў крыж, і гэта месца было ператворанае ў прыгожы мемарыял.

На думку пісьменніцы Ірыны Жарнасек, камуністычнай ўладзе не падабалася, што гэта гісторыя моцна звязана з касцёлам, што яе героямі сталі святары. Але і замоўчыць смерць больш за паўтары тысячы людзей яны не маглі. Таму помнік яны паставілі не на месцы трагедыі, не каля касцёла, а проста пры дарозе. Больш за тое, нават не давалі людзям маліцца на месцы трагедыі:

*– Калі пасля вайны людзі вярталіся ў гэтую вёску, тыя, хто выжыў пасля канцлагераў, яны прыходзілі сюды на гэта месца. Бо тут іхнія бацькі, браты, сёстры, бабулі, дзядулі загінулі. Яны прыходзілі сюды памаліцца, а іх проста гналі адсюль. Забаранялі сюды прыходзіць.*

На месцы гібелі жыхароў Росіцы адбылася малітва, і да вернікаў звярнуўся біскуп Алег Буткевіч. Ён адзначыў той факт, што мы знаходзімся на месцы, дзе адбылася перамога дабра над злом, перамога жыцця над смерцю:

*– Прыходзячы сюды, мы ўшаноўваем не пераможаную смерць пакутнікаў, але імкнёмся ўсвядоміць сабе, чым сапраўды ёсць людское жыццё, наколькі вялікая яго годнасць.*

Вернікі паставілі да помніка знічы і ўшанавалі крыж, усталяваны ў гонар росіцкіх пакутнікаў. На думку архімандрыта Сяргея Гаека, прыклад айцоў Антонія і Юрыя мае вялікае значэнне для кожнага святара:

*– Росіца для мяне значыць вельмі шмат. Пра Росіцу я ведаў яшчэ раней, калі Святы Айцец накіраваў мяне служыць у Беларусь. І хаця маё служэнне абдымае ўсю Беларусь, але Віцебская дыяцэзія, тым больш Полацк, гэта нашы духоўныя крыніцы, асабліва для грэка-каталіцкай царквы. І калі мы гаворым пра Віцебск, Полацк, Друю, дзе шмат гадоў марыяне служылі, з Друі ўжо тры крокі ў Росіцу. А для служэння любога святара прыклад гэтых двух святароў, ксяндзоў Юрыя і Антонія, значыць вельмі шмат.*

Закончыліся ўрачыстасці супольным абедам, а айцец Чэслаў запрасіў усіх на сустрэчу сем'яў, якая адбудзецца ў Росіцы 18 мая.





Каталіцкі ВЕСНІК №2(95) люты 2019 г.

# Дзмітрый Прыступа: “ Я буду служыць Богу, людзям і Беларусі”



**Дзмітрый Прыступа досыць добра вядомы вернікам касцёла Святога Антонія Падуанскага. Некалькі год запар ён як клерык – сэрцанін прыязджаў на практыку і дапамагаў у касцёле і ў летніх лагерах. Цяпер ён, будучы ўжо дыяканам, некалькі месяцаў служыць у Паставах, прамаўляе казанні на добрай беларускай мове і ў штодзённых стасунках карыстаецца толькі ёю.**

**– Дыякан Дзмітрый, часта задаюць пытанне: чаму трэба звяртацца да Бога на сваёй роднай мове?**

– Я сэрцанін, законнік. Вельмі часта спатыкаюся з такім пытаннем: чаму Вы, ксёндз, моліцеся па – беларуску? Пытанне вельмі дзіўнае для мяне. Па – першае, мы знаходзімся на Беларусі, і беларуская мова для нас – першая мова, родная, мова нашых айцоў і дзядоў, якую мы ўсмоктваем з малаком маці. І пагэтаму маліцца на гэтай мове – гэта значыць размаўляць з Богам на той мове, якая для мяне зразумелая і якая з'яўляецца тым малаком, малаком маёй маці, праз якое я кантактую з Богам. Па - другое, мова ў малітве – гэта выраз сваіх пачуццяў, сваіх эмоцый, свайго дыялогу з Богам, дыялогу, які вядзе да ўдасканальвання мяне і таксама маіх блізкіх, якія з гэтай мовы карыстаюцца.

**– На якой мове Вы маліліся ў дзяцінстве? Ці была ў доме супольная малітва?**

– Я родам з Баранавіч. Акрамя мяне, у сям'і раслі дзве сястры: старэйшая за мяне і малодшая. Вечарам мы заўсёды дзякавалі Богу за мінулы дзень і маліліся ўсёй сям'ёй: ці ў нашых розных патрэбах, ці за бацьку, які адсутнічаў, бо быў на працы. Мы станавіліся на калені ўсёй сям'ёю і перад іконамі маліліся, што вельмі глыбока запала ў маю свядомасць і памяць. Маліліся па – расейску. Першыя малітвы я вывучыў па – польску і па – расейску. Але паколькі маліліся не на сваёй мове, для мяне гэта было адгаворваннем нейкіх вершыкаў, якія я не да канца разумеў.

**– А калі пачалі маліцца па – беларуску?**

– Ужо калі пайшоў у семінарыю, якая знаходзілася ў Польшчы, пачаў паглыбляць сэнс малітвы. Тады да мяне дайшло, да Каго я малюся, аб чым я малюся. І малюся на незразумелай для сябе мове. І сам стаў сябе перавучваць: вучыў некаторыя малітвы і разважаў іх па – беларуску, нягледзячы на тое, што быў у Польшчы. Таксама калі маліўся не ў семінарыйнай супольнасці, то заўсёды маліўся па – беларуску, менавіта на той мове, якую я атрымаў ад сваіх бацькоў, якія больш ці менш карысталіся гэтай мовай дома.

**– Якое значэнне мае выданне Новага Запавету на беларускай мове?**

– Выйшла першае выданне Новага Запавету на беларускай мове, якое яшчэ больш адкрывае межы Евангелля для мяне і для ўсіх беларусаў. Межы нашай хрысціянскай і каталіцкай сутнасці. Бо можна чытаць Евангелле на розных мовах і ў розных перакладах, і гэта будзе нешта значыць для нас. Але гэта не тое самае, што чытаць яго на сваёй роднай мове і ў межах сваёй Бацькаўшчыны.

**– Якімі перыядамі або падзеямі з нашай гісторыі Вы ганарыцеся?**

– Я вельмі цікаўлюся гісторыяй Беларусі. Яна дапамагае мне адкрываць праўдзівую рэчаіснасць нашага беларускага народа, нашай спадчыны, культуры. Адразу ўспамінаецца бітва пад Грунвальдам 1410 года, бітва пад Воршай 1514, Слуцкі збройны чын . Гэта такія ганаровыя для нас, беларусаў, падзеі, якія варта ведаць, ганарыцца імі. Яны баранілі нашу незалежнасць, наша багацце як беларусаў, спадчыну. Таксама трэба ганарыцца нашай мовай, культурай.

**– А каго б Вы назвалі героямі Беларусі?**

– Князя Гедыміна. Я маю сваю асаблівую сімпатыю да яго, ён вельмі наш чалавек, стараўся збіраць беларускі этнас. Кажучы словамі з Біблії, той, хто збірае, не рассейвае. Езус у Евангеллі кажа: “Той, хто збірае, а не рассейвае, той Мой”. Мужнасць і адважнасць Гедыміна, Вітаўта... А з літаратараў – перш за ўсё Уладзімір Караткевіч і Васіль Быкаў, людзі, пісьменнікі, якія паказвалі праз сваё пісьменства адданасць сваёй Бацькаўшчыне і сваёй роднай мове. Любілі насамрэч тое, што наша, беларускае.

**– Ваша служэнне Богу і людзям будзе на Беларусі?**

– Спадзяюся, што так, хоць наш Ордэн місіянерскі і сэрцане працуюць шмат у якіх краінах. Маё святарскае пасвячэнне адбудзецца ў маі, і я буду служыць, напэўна, на Беларусі, яшчэ невядома дзе. Але хочацца аддаваць тое, што належыць Богу, і людзей кіраваць да Бога, трымаючы ў руках нашу беларускую тоеснасць, нашу Біблію і разважанні Евангелля.

*Гутарыла*
***Аліна Латыш***

# Выставка сакральной культуры костела открылась в Национальном историческом музее в Минске



**Выставка “Сакральная культура костёла Беларуси”, созданная по инициативе парафии костёла Святой Троицы на Золотой Горке в Минске, открылась в Национальном историческом музее, передает корреспондент БЕЛТА.**

Сегодня католичество является второй по количеству верующих конфессией в Беларуси. Католический костёл на протяжении многих столетий был неотъемлемой частью развития культуры на белорусских землях и за несколько столетий своей деятельности глобально повлиял на эволюцию художественных и музыкальных традиций, образовательных процессов, книгопечатания. Духовные традиции и сакральное наследие, хранящееся в костёлах, ещё мало известны широкой аудитории, однако являются интересными и захватывающими.

“Эксклюзивность этого выставочного проекта в том, что половина экспонатов – культовых предметов – находится в употреблении и сегодня. Предметы для выставки представлены учреждениями Минско-Могилевской архиепархии и Гродненской епархии. Все они имеют сакральное значение, потому что намоленные поколениями. Наша цель – позволить людям заглянуть в мир католицизма Беларуси. Мы представляем культуру, быт и повседневную жизнь костёла. Даже короткое знакомство с такой экспозицией даст достаточно полное представление, как живет католический костёл. Эта выставка очень важна, ведь все мы разных взглядов, убеждений, вероисповедания. И только взаимное уважение, понимание, информирование, а также знание друг друга помогут избежать каких-то недоразумений в будущем”, – отметил консультант проекта искусствовед Сергей Хоревский.

На выставке представлено около 250 экспонатов, которые показывают основные традиции католической церкви Беларуси: наиболее значимые праздники литургического годового цикла и своеобразные культурные обычаи, а также чрезвычайные артефакты, среди которых орнат из слуцких поясов и монстрация, сделанная в 1783 году специально к освящению костёла Вознесения Пресвятой Девы Марии в Будславе, скамейка для молитвы, которую использовали сестры-назаретанки, расстрелянные нацистами в Новогрудке в 1943 году и беатифицированные в 2000-ом, литургическая утварь из костёлов Беларуси. Ряд произведений иконописи представил Национальный художественный музей.

“Собирая уникальные экспонаты для выставки, мы объехали несколько костёлов страны, провели работу с частными коллекционерами, побывали в Будславе, Новогрудке, Рубежевичах. Мы старались сделать акценты на глубине истории католической культуры Беларуси. Кроме того, в экспозиции мы представили древнюю шляхетскую традицию – крещение на саблях”, – рассказал заместитель директора Национального исторического музея Александр Храмой.

– Учитывая, что 2019-ый – год 75-летия освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков, мы показали католический праздник “Дзяды” через фотовыставку расстрела назаретанок. А еще на выставке размещены фоторaботы Сергея Плыткевича, отображающие возрождение Костёла святых Симеона и Елены, и снимки католических памятников, сделанные с высоты птичьего полета”.

Знаковое место на выставке отведено артефактам из частной коллекции Игоря Сурмачевского, который на протяжении многих лет собирает и реставрирует предметы, связанные в том числе и с религиозной тематикой. Среди них карта монастырей францисканцев на территории Речи Посполитой 1753 года, грамота Сигизмунда Вазы на строительство церкви Святого Духа при базилианском монастыре 1613 года, слуцкий пояс, иконы, примеры белорусского деревянного зодчества и многое другое.

Кроме того, во время открытия выставки католическую богослужебную музыку и книжное наследие презентовали рукописями и книгами из фондов Национального исторического музея и Национальной библиотеки Беларуси. Состоялась передача музею литургической литературы – подарено около 30 книг и документов.

Выставка “Сакральная культура костёла Беларуси” будет работать в Национальном историческом музее по 20 марта. Проект осуществлен в соответствии с меморандумом о сотрудничестве, заключенным Национальным историческим музеем и курией Минско-Могилевской архиепархии.

***Фото Максима Гучека, БЕЛТА***



# “Згарэў, як свечка”: у Плюсах развіталіся з ксяндзом Казімірам Акушкам

Пахаванне адбылося ў аўторак 12 лютага.

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Пробашч парафіі Святой Тройцы ў Плюсах Браслаўскага дэканата адышоў да Пана ў суботу, 9 лютага. Тут ён служыў больш за шаснаццаць гадоў, з 2002-га. 21 кастрычніка яму павінна было б споўніцца шэсцьдзясят гадоў.

На пахаванне прыехалі амаль усе святары з Віцебскай дыяцэзіі, ксяндзы з іншых дыяцэзій Беларусі. Было шмат сясцёр законных, вернікаў, прычым не толькі з гэтай парафіі, але і з Браслава, Гудагая, Глыбокага, Варапаева, Лынтупаў, іншых гарадоў і вёсак краіны. Адмыслова на пахаванне з Іркуцка (Расія) прыляцеў біскуп Кірыл Клімовіч, які ў свой час разам з ксяндзом Казімірам працаваў на Глыбоччыне.

Пахавальную Імшу цэлебраваў біскуп Алег Буткевіч. На пачатку набажэнства ён адзначыў, што “мы ўсе сабраліся праводзіць у апошні шлях выдатнага святара і чалавека, які амаль 28 гадоў служыў пры алтары. Геаграфія яго святарскай паслугі даволі шырокая: Варапаева, Празарокі, Мёры, Дзісна, Новы Пагост, Плюсы, а таксама і іншыя парафіі”. Іерарх выказаў удзячнасць дэлегацыі з Гудагая Гродзенскай дыяцэзіі – радзімы ксяндза Казіміра, якая на чале са сваім пробашчам таксама прыехала на пахаванне.

У сваім слове да вернікаў біскуп звярнуў увагу, што лёс чалавека – гэта не магіла, а жыццё вечнае з Езусам Хрыстом. Дар святарства, які атрымаў ксёндз Казімір, – вынік пабожнасці яго бацькоў.

Іерарх адзначыў, што ўсё жыццё гэтага святара суправаджала Маці Божая Вострабрамская. Маладым чалавекам ён часта быў у Вільні, дзе знаходзіцца гэты абраз. Магчыма, не ў апошнюю чаргу пад яго ўздзеяннем і прыняў рашэнне стаць святаром, калі ўжо дарослым працаваў у Вільні.

Атрымаўшы святарскае пасвячэнне ў 1991 годзе з рук біскупа Тадэвуша Кандрусевіча, ксёндз Казімір шмат дзе працаваў. Але найбольшая частка яго служэння прайшла тут, у Плюсах, дзе ў галоўным алтары знаходзіцца абраз Маці Божай Вастрабрамскай.

Напрыканцы гаміліі ардынарый заклікаў вернікаў берагчы сваіх святароў: “Зараз я не магу аднавначна адказаць вам, ці будзе ў вас свой святар. Маем пра гэта прасіць у малітве”. Прычынай таму – змяншэнне колькасці пакліканняў, таму ўсе мы ў першую чаргу мусім маліць Бога пра гэта.

Біскуп Алег выказаў надзею, што ксёндз Казімір назаўсёды застанецца ў нашай памяці не толькі як святар, але як і просты чалавек.

На завяршэнне Імшы да прысутных звярнуўся біскуп Кірыл Клімовіч. Ён адзначыў, што ндаўна быў у Еўропе, але, пачуўшы пра смерць святара, адразу прыняў рашэнне ляцець у Беларусь. Біскуп Кірыл служыць зараз у Іркуцку, ён узначальвае самую вялікую па плошчы дыяцэзію ў свеце. На яе тэрыторыі могуць змясціцца больш за тры дзясяткі тэрыторый Беларусі. “Але ў нас працуе толькі 38 святароў на такую вялікую тэрыторыю, – адзначыў іркуцкі іерарх, – таму шануйце сваіх святароў. Памятайце, яны не з неба на парашутах да вас спусціліся, яны ўсе такія ж людзі, як і вы, са сваімі слабасцямі і недахопамі. Але гэта святары, без якіх ніхто не атрымае прабачэння грахоў, і без якіх ніхто не давядзе вас да Езуса”. Шмат у каго гэтыя словы іерарха выклікалі слёзы на вачах.

Пасля Імшы труна з целам ксяндза Казіміра была вынесеная з храма на руках святароў да месца пахавання, дзе адбылася развітальная малітва. Пахавалі святара побач з касцёлам. Дарэчы, каля яго знаходзіцца магіла яшчэ аднаго ксяндза, пробашча з Плюсаў, які памёр амаль сто гадоў таму, у 1920 годзе.

Вечны адпачынак дай ім, Пане!



# Вялікі Пост

**6 сакавіка ў Касцёле распачынаецца перыяд Вялікага Посту. “Каталіцкі Веснік” прапануе Вам праверыць свае веды на тэму Вялікага Посту, прайшоўшы гэты тэст.**

1 Колькі дзён трывае перыяд Вялікага Посту?



**А.** 33
**Б.** 40
**В.** 30

2 Як называецца дзень, які распачынае Вялікі Пост?



**А.** Вялікая серада
**Б.** Крыжовая серада
**В.** Папяльцовая серада

3 “Песні жальбы” гэта:



**А.** Набажэнствы ў Касцёле падчас Вялікага Посту
**Б.** Малітва перад сакрамантам пакаяння і паяднання
**В.** Працэсія падчас Пасхальнага Трыдууму

4 Хто з герояў Старога Запавету прытрымліваўся шматдзённага посту?



**А.** Майсей і Ілля
**Б.** Эстэр
**В.** Усе пералічаныя

5 Якія дні ўваходзяць у Пасхальны Трыдуум?



**А.** Ндзеля, панядзелак, аўторак
**Б.** Чацвер, пятніца , субота
**В.** Панядзелак, аўторак, серада

6 У які дзень Езус спажыў з апосталамі Апошнюю вячэру?



**А.** Нядзеля
**Б.** Чацвер
**В.** Пятніца

7 Якія два сакраманты ўстанавіў Езус Хрыстус падчас апошняй вячэры?




**А.** Эўхарыстыя і Святарства
**Б.** Хрост і Бежмаванне
**В.** Святарства і Сужэнства

8 У якія дні вернікаў абавязвае строгі пост?



**А.** Кожную пятніцу тыдня, акрамя урачыстасцяў
**Б.** Кожную сераду і пятніцу падчас Вялікага посту
**В.** У Папяльцовую сераду і Вялікую пятніцу

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

**Правільныя адказы на тэст на старонцы 16**



# Каляндар на сакавік

**4 сакавіка – успамін святога Казіміра.**

Святы Казімір быў другім з шасці сыноў польскага караля Казіміра Ягелончыка. Ён нарадзіўся 3 кастрычніка 1458 г. у каралеўскім замку ў Кракаве. У 1476 г. яго першым выхавальнікам і настаўнікам стаў знакаміты польскі гісторык і хранікёр Ян Длугаш. Бацькі св. Казіміра былі вельмі набожнымі людзьмі. Казімір рана пачаў удзельнічаць у палітычным жыцці, але разам з тым вылучаўся надзвычайнай набожнасцю. Ён штодзённа браў удзел у святой Імшы, шмат маліўся, здзяйсняў учынкі міласэрнасці. Святы памёр праз хваробу на сухоты 4 сакавіка 1484 г. ва ўзросце 26 гадоў.

Іканаграфія найчасцей паказвае св. Казіміра ў княжацкім адзенні з лілеяй у руках або як ён кленчыць уначы перад дзвярыма катэдры, каб прыгадаць яго захапленне і пашану да Найсвяцейшага Сакраманту.

У 1602 г. Папа Клімент VIII кананізаваў яго, а ў 1950 г. Папа Пій XII абвясціў апекуном літоўскай моладзі. У 1993 г. Ян Павел II сваёй булай устанавіў св. Казіміра адным з заступнікаў Гродзенскай дыяцэзіі. У Вільні, у катэдральным касцёле, знаходзяцца яго рэліквіі.





**6 сакавіка – Папяльцовая Серада.**

Папяльцовая Серада распачынае перыяд Вялікага посту, які доўжыцца 40 дзён. Традыцыйна ў гэты дзень адбываецца абрад пасыпання галоў попелам. Сам звычай пасыпання галоў попелам на знак жалю і пакуты вядомы ў многіх культурах і традыцыях. Мы знаходзім яго як у Старажытным Егіпце і Старажытнай Грэцыі, так і ў індзейскіх плямёнаў. Таксама, вядома, і на старонках Бібліі, напрыклад, у Кнізе Ёны або Ёэля. Літургічная адаптацыя гэтага звычаю з'яўляецца, аднак, толькі ў VIII стагоддзі. Першыя сведчанні пра асвячэнне попелу вядомыя з X стагоддзя. У наступным стагоддзі Папа Урбан II увёў гэты звычай як абавязковы ва ўсім Касцёле. Таксама з таго часу паходзіць традыцыя атрымання попелу для пасыпаня галоў вернікаў з пальмаў, пасвечаных у Пальмавую Нядзелю папярэдняга году. У Папялец абавязковым з'яўляецца строгі пост.

**7 сакавіка – успамін Св. Пэрпэтуі і Фэліцыты, мучаніц.**

Пэрпэтуя і Фэліцыта жылі ў II – III стст. на тэрыторыі Паўночнай Афрыкі (сучасны Туніс). Яны сталі мучаніцамі, якія прынялі смерць за веру ў Хрыста ў Карфагене ў 202 г. Пра іх подзвіг расказана ў дакуменце, які дайшоў да нас пад назвай "Пакуты святых Пэрпэтуі, Фэліцыты і з імі пацярпелых" – адным з самых ранніх тэкстаў такога кшталту. Палова яго напісаная ад першай асобы і ўяўляе сабой сведчанне самой Пэрпэтуі і яе настаўніка Сатура.

Святой Пэрпэтуі было 22 гады, і яна паходзіла са шляхетнага роду, мела таксама двухгадовую дачку, а Фэліцыта была рабыняю. Таемна ад свайго бацькі, перакананага паганца, Пэрпэтуя пачала



наведваць сходы хрысціян і рыхтавалася да хросту. Разам з ёй паверыла ў Хрыста і яе служанка Фэліцыта. Калі на хрысціян пачаліся ганенні, пацярпела таксама і Пэрпэтуя. Разам са сваёй рабыняю яна была кінута ў вязніцу. Бацька ўгаворваў яе падумаць пра маленькае двухгадовае дзіця, але жанчына не адраклася ад Госпада. У вязніцы Святыя Пэрпэтуя і Фэліцыта, а таксама трое іншых вязняў прынялі хрышчэнне. Калі яны адмовіліся скласці ахвяру язычніцкім божкам, іх аддалі на разарванне дзікім звярам на гарадской арэне.

Апынуўшыся сярод звяроў, жанчыны падтрымлівалі адна адну і праслаўлялі Бога, даючы сабе мужнасці. Моцна параненых леапардам, іх затым дабілі мячом. Гэта адбылося 7 сакавіка 202 г. Са старажытных часоў святыя былі ў вялікай пашане ў Касцёле, пра што сведчыць таксама і тое, што іх імёны ўзгадваюцца ў Рымскім каноне.

**19 сакавіка – урачыстасць святога Юзафа, абранніка Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Святы Юзаф – апякун Найсвяцейшай Панны Марыі і Езуса Хрыста на зямлі. Усе звесткі пра жыццё святога мы знаходзім у Евангеллі паводле Мацвея і паводле Лукі. Нягледзячы на тое, што іх зусім няшмат, менавіта Абраннік Найсвяцейшай Панны Марыі з'яўляецца адной з найбольш значных постацяў у хрысціянстве.

Па прафесіі ён быў цесляром, жыў і працаваў у Назарэце і быў заручаны з Марыяй. Першым пра св. Юзафа пісаў св. Іеранім, Папа Леон XIII прысвяціў св. Юзафу энцыкліку, Пій X зацвердзіў Літанію да св. Юзафа, а Ян XXIII уключыў яго імя ў Рымскі канон. Святы Ян Павел II выдаў пастарскі ліст "Redemptoris custos", у якім паказвае св. Юзафа як узор



добрага мужчыны ў нашыя часы.

Дзень імянінаў усіх, хто мае імя Юзаф ці Юзэфа. Святы Юзаф з'яўляецца апекуном добрай смерці. У гэты дзень удзел у св. Імшы з'яўляецца абавязковым.



**25 сакавіка – урачыстасць Звеставання Пана.**

Дзень, у які Арханёл Габрыэль абвясціў дзяўчыне Марыі, што яна стане Маці Бога і што пад Яе сэрцам з'явіўся Хрыстус. Ва Усходніх Цэрквах гэтае свята адзначалі ўжо ў V стагоддзі, а на Захадзе – з часоў пантыфікату Грыгорыя Вялікага (VII ст.).

У энцыкліцы "Evangelium vitae", абвешчанай 25 сакавіка 1995 г., Ян Павел II прапанаваў штогод у гэта свята адзначаць Дзень жыцця, каб звярнуць увагу грамадскасці на яго каштоўнасць. Для таго, каб кожная жанчына і ўсе людзі, нягледзячы ні на якія складанасці і праблемы, па прыкладзе Марыі заўсёды казалі "так" новаму жыццю з моманту зачацця.

У апошнія гады ў Беларусі пашыраецца добрая традыцыя духоўнага ўсынаўлення. Ва ўрачыстасць Звеставання Пана (а таксама і ў іншыя марыйныя святы) многія вернікі бяруць на сябе абавязак на працягу дзевяці месяцаў маліцца за дзіця, якому пагражае небяспека аборту.

*Падрыхтавала* ***Вікторыя Колзун***

## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу: *363*375295105172*2#
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу: *363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.

Увага!

Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.

Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.

Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"***

## На сакавік прыпадаюць дні нараджэння і дні святарскіх пасвячэнняў у наступных святароў і біскупаў:

**6 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **а. Зянон Шчонхар MS** *(Відзы)*;

**7 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **а. Вальдэмар Куява OFMConv** *(Удзела)*;

**8 сакавіка** – дзень святарскага пасвячэння адзначае **а. Вадзім Мізер MIC** *(Орша)*;

**18 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае біскуп Алег Буткевіч;

**28 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Амяльчэня** *(Ватыкан)*; дзень святарскага пасвячэння адзначае **кс. Вячаслаў Пялінак.**

*Падрыхтаваў* ***Зміцер Лупач***

# Сакрамант намашчэння хворых. Што неабходна ведаць

**11 лютага Каталіцкі Касцёл адзначыў Сусветны дзень хворых. З гэтай нагоды ў святынях удзяляецца сакрамант намашчэння хворых. Прапануем узгадаць сутнасць гэтага сакраманту разам з пробашчам Браслаўскай парафіі ксяндзом Станіславам Мжыглудам SDS.**

■ **Святлана Жылевіч**, *waladarka.by*
*(друкуецца са скарачэннямі)*

### Сутнасць сакраманту намашчэння хворых

Неабходна пачаць з таго, што сакрамант намашчэння хворых, як і ўсе сакраманты, устанавіў Езус Хрыстус, наш Бог. Калі Хрыстус прыйшоў у гэты свет, то прыйшоў, каб лячыць усяго чалавека: яго душу і яго цела. Таму Ён аздараўляў хворых, спачуваў іх цярпенням, але і патрабаваў ад людзей веры, каб вылечыць іх душу ці цела. Потым Пан Езус пасылаў сваіх апосталаў, каб яны ішлі і аздараўлялі людзей. Напрыклад, у Евангеллі паводле святога Мацвея мы можам прачытаць словы: "Аздараўляйце хворых, ачышчайце пракажоных, уваскрашайце памерлых, выганяйце злых духаў". І апосталы ішлі, заклікалі людзей да пакаяння, выганялі злых духаў, а таксама многіх хворых намашчалі алеем і аздараўлялі. І так ёсць па сённяшні дзень.

Вынікі асаблівай ласкі сакраманту намашчэння хворых наступныя: кожны, хто прымае гэты сакрамант, злучаецца з Мукай Хрыста дзеля свайго ўласнага дабра і дзеля дабра ўсяго Касцёла; кожны, хто прымае гэты сакрамант, атрымлівае спакой, узмацненне і мужнасць, каб па-хрысціянску прымаць цярпенні, хваробы або мукі. Таксама праз сакрамант намашчэння хворых чалавек атрымлівае адпушчэнне грахоў, калі хворы не мог атрымаць яго праз сакрамант пакаяння (калі праз хваробу чалавек не можа размаўляць). І, канешне, сакрамант намашчэння хворых вяртае здароўе, калі гэта служыць духоўнаму дабру таго, хто пакутуе. І галоўнае – гэты сакрамант рыхтуе нас да пераходу ў вечнае жыццё.

Сакрамант намашчэння хворых – гэта вялікая ласка для хворага чалавека, таму не трэба яго пазбягаць. Пан Бог добры і жадае нам толькі дабра, таму варта гэтай ласкай карыстацца.

### Як адбываецца сакрамант намашчэння хворых

Першым этапам, канешне, калі гэта магчыма, павінен быць сакрамант споведзі. Калі чалавек атрымае прабачэнне грахоў, святар ускладвае рукі на галаву хворага і намашчае святым алеем яго лоб і рукі і кажа такія словы: "Праз гэтае святое намашчэнне і сваю бясконцую міласэрнасць няхай Пан умацуе цябе ласкаю Духа Святога. Амэн!" "Няхай Пан вызваліць цябе ад грахоў, уратуе і міласціва падтрымае. Амэн!"

Пасля таго, як хворы прыступіць да святой Камуніі, святар удзяляе спецыяльнае бласлаўленне.



кс. Станіслаў Мжыглуд SDS

### Хто можа скарыстацца гэтым сакрамантам

Адказ на пытанне дае Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, дзе адзначаецца: "адпаведны момант для гэтага сакраманту ўзнікае тады, калі верніку пагражае смерць з прычыны хваробы або старасці".

Езус Хрыстус прыходзіць з асаблівай ласкай на дапамогу тым, хто знаходзіцца ў стане цяжкай, небяспечнай для жыцця хваробы, а таксама перад аперацыяй. У двух словах можна сказаць, што сакрамант – для састарэлых і цяжка хворых асобаў.

### Колькі разоў можна прымаць сакрамант намашчэння хворых

Канешне, нельга канкрэтна сказаць, колькі разоў можна прыняць сакрамант намашчэння хворых. Усё залежыць ад стану чалавека, яго здароўя. У старасці, зразумела, можна час ад часу прымаць гэты сакрамант, бо старасць заўсёды вядзе да смерці. Тое самае, калі чалавек жыве з цяжкай хваробай ці прыкуты да ложка. Варта гэтым карыстацца, калі сакрамант удзяляецца ў касцёле, а для тых, хто не можа хадзіць, заўсёды, калі запрашаеце святара на споведзь.



### Што неабходна падрыхтаваць, калі сакрамант удзяляецца ў доме хворага

Упакоі, дзе знаходзіцца хворы, неабходна падрыхтаваць стол, накрыты белым абрусам, паставіць крыж, пажадана дзве свечкі, асвячоную ваду, пакласці кавалак ваты на сподак *(каб святар мог выцерці пальцы пасля намашчэння алеем)*, шклянку з вадой і маленькай лыжкай *(на выпадак, калі хворы не можа добра праглынуць святую Камунію, каб мог запіць)*.

### Заўвагі святара

Умяне часта пытаюцца: калі запрасіць святара з сакрамантам намашчэння хворых? На справе бывае так, што святара запрашаюць тады, калі хворы ўжо ў такім стане, што з ім няма кантакту, калі амаль памірае. Не трэба чакаць такога моманту, варта запрашаць святара, калі хворы яшчэ ў свядомасці, бо гэта сакрамант жывых, а не памерлых. Некаторыя кажуць "апошняе" намашчэнне і таму, напэўна, няправільна разумеюць яго сутнасць, бо чакаюць моманту смерці, чакаюць да апошняй хвіліны. Не так гэта павінна быць. Калі чалавек хворы ляжыць дома год, два – чаму не запрасіць святара?!

Гэта сакрамант узмацнення хворых у хваробе. Ён патрэбны не толькі хворым, але і іх блізкім, каб супольна перажываць праўду пра тое, што чалавек пакліканы да жыцця з Богам, да вечнага жыцця. І Касцёл нас вучыць, што гэта сакрамант аздараўлення. Варта карыстацца гэтай ласкай.

Па ўсіх пытаннях заўсёды можна звяртацца да святароў у сакрыстыю касцёла.

## Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

## Хвала Хрысту!





*Марыяне – **айцец Вадзім Мізер** з Оршы і **айцец Канстанцін Анашка** з Жодзіна – 8 сакавіка адзначаюць гадавіну святарскага пасвячэння. Мы жадаем ім плёну ў святарскай паслузе! Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны Ваш дзень, які будзе асвечаны любоўю і міласэрнасцю, супакоем і шчасцем, верай і надзеяй! Маці Найсвяцейшая хай акрывае Вас сваім мацярынскім крылом!*

***Вернікі з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Друі***



# Крыжовы шлях

**Мелодыя XVII ст, словы – а. Міхал Ермашкевіч OP**




2. Езус на плечы крыж бярэ. / Бог за людзей на ім памрэ. /
Усе немачы Ён нашы ўзяў, / Цяжар грахоў на Сябе ўсклаў.

3. Падае Езус першы раз, / Каб зло грахоў мінула нас, /
Змучаны Езус з пылу ўстаў, / Далей свой шлях Ён працягваў.

4. Маці Святую Пан спаткаў, / Меч сэрца матчына праняў. / Дзеліць з Марыяй боль Хрыста / Касцёл – Хрыстова нявеста.

5. Сымон крыж несці дапамог. / Крыж неслі чалавек і Бог. / Нам разам несці крыж лягчэй: / Крыж твой узяў Пан на плечы.

6. Вось знак, што чалавек зграшыў: / Бруд грэху вобраз Божы скрыў. / Хустка кранула боскі твар: / На ёй застаўся святы дар.

7. Езу, прабач мае грахі, / Божа мой, Збаўца дарагі! / Хоць пад цяжарам зноў упаў, — / З граху паўстання ўзор нам даў.

8. Выйшлі жанчыны галасіць, / Ласкі для Езуса прасіць. / Богу не трэба горкіх слёз, / А плачу варты людзей лёс.

9. Каб з праху чалавек паўстаў, / Езус апошні раз упаў. / Вось на Галгоце Бог ляжыць, / Каб я навекі з Ім мог жыць.

10. Ласку ў раі Адам згубіў, / І без яе як голы быў. / Каб з ласкай зноў маглі мы жыць, / Стаіць наш Пан без адзежы.

11. Рукі і ногі боль працяў: / Так грэшнік Збаўцу крыжаваў. / Крыж Твой акроплены крывёй, / Якой змываецца грэх мой.

12. Плод дрэва з раю смерць прынёс, / Крыж зменіць чалавечы лёс. / На дрэве Бог за нас сканаў / І плод жыцця спажыць нам даў.

13. Езуса крыж – у неба шлях, / Славу яму пяём ў вяках. / Маці Святая ля яго / Паклон дае целу Бога.

14. Бог, што увесь сусвет стварыў, / У сёмы дзень ў зямлі спачыў. / Душам збаўленне абвясціў, / Сваёю смерцю нас збавіў.

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*10 лютага адзначыў Дзень нараджэння, а 17 лютага – імяніны наш пробашч – **ксёндз Аляксей Асон**.*

*Шаноўны ксёндз Аляксей! Сардэчна віншуем Вас з гэтай нагоды! Жадаем моцнага здароўя, духоўных і фізічных сілаў, апекі Маці Божай, падтрымкі Вашых родных, трываласці ў Вашай нялёгкай працы. Божага блаславення Вам на доўгія гады!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы, в. Новы Пагост***

## Хвала Хрысту!



*28 лютага – імяніны ў нашага пробашча **ксяндза Рамана Мурзіча**.*

*Шаноўны ксёндз Раман! Шчыра віншуем Вас з гэтай нагоды і жадаем Божай мудрасці, моцнага здароўя, плёну ў працы на Божай ніве! Няхай Усемагутны Бог і Ваш Анёл-Ахоўнік заўсёды берагуць Вас, падтрымліваюць ва ўсіх Вашых планах і задумах, а Маці Божая хай заўсёды атуляе сваёй любоўю і апекай! Мы заўжды адчуваем цеплыню Вашага сэрца і будзем шчыра маліцца за Вас!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Імя Найсвяцейшай Панны Марыі з Параф'янава***

## Какие призвания бывают в Церкви, кроме монашества и брака?

Христианин не обязан состоять в браке или посвящать себя Богу через евангельские советы. В истории Церкви есть немало святых людей, которые не имели ни того, ни другого статуса. Каждый из них в некотором смысле имел семью, о которой заботился либо материально, либо духовно. Это могли быть родные, друзья, община. Основное призвание христианина заключается не в принятии какого-либо статуса, а в самоотдаче ближнему, по примеру Бога, сделавшемуся даром для людей.

Среди таких "одиночек" есть и те, кто напрасно ждёт встречи с человеком, с которым можно создать семью: они также призваны жить для других, а не только для себя, осуществляя в своей жизни и на своем месте своего рода материнство и отцовство по отношению к братьям и сестрам.

К таким людям относятся и подвижники страдания. В истории Церкви их тоже было немало. Вспомним слугу Божью Марту Робен (1902–1981): она не была ни монахиней, ни супругой. Она прожила в физических страданиях и во мраке, не имея возможности даже пошевелиться, и питалась только Евхаристией. Марта говорила, что ее призвание – молиться и своими страданиями участвовать в жертвоприношении Иисуса Христа за спасение человечества.

Все люди без исключения – семейные, богопосвященные, незамужние и холостые – призваны преображать свой труд и свою жизнь в жертву Богу за жизнь мира. Святой апостол Павел в Послании к Римлянам напоминает: "Никто из нас не живёт для себя, и никто не умирает для себя; а живём ли – для Господа живём; умираем ли – для Господа умираем: и потому, живём ли или умираем, – всегда Господни". Привитые к лозе – Иисусу Христу – в любом статусе и жизненной ситуации мы призваны жить так, чтобы приносить плоды.

*Русская редакция Vatican News*

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*7 сакавіка адзначае свой 50-гадовы юбілей наш **айцец Вальдэмар Куява**.*

*Паважаны айцец Вальдэмар! Жадаем Вам сілы, трываласці, моцнага здароўя, душэўнага спакою, заўжды цудоўнага настрою, Божай падтрымкі ў Божых справах, шчырых вернікаў на Вашым святарскім шляху! Няхай Усемагутны Бог падтрымлівае Вас, Маці Божая хай ахінае сваёй мацярынскай апекай, Святы Дух няхай дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і шчодра адорвае ласкамі!*

*Мы ўдзячныя Богу, што Ён дае нам магчымасць маліцца разам з Вамі, чуць ад Вас Божае слова. Дзякуем Вам за глыбокую веру, за плённую працу на карысць Касцёла і парафіі!*

***З павагай, вернікі парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Удзела***

## Шчыра віншуем!

*Шчыра віншуем з днём нараджэння пробашча касцёла Святога Антонія Падуанскага ў Паставах **ксяндза Вадзіма Прасянога**!*

*Мы дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, за паслугу ў канфесіянале, за духоўнае кіраўніцтва, за клопат пра збаўленне нашых душ і дапамогу ў кожнай сітуацыі, за Вашы цярплівасць, адкрытасць, зычлівасць! Жадаем моцнага здароўя, душэўнага спакою, сіл для выканання штодзённых пастырскіх абавязкаў. Няхай кожны дзень Вашай ахвярнай працы будзе асвечаны святлом Святога Духа, а Маці Божая хай вядзе найлепшай дарогай да святасці і прытуляе да свайго мацярынскага сэрца!*

***З малітвай і ўдзячнасцю, Вашы парафіяне***



# Ці можна мяняць хросных бацькоў?

*"Хвала Хрысту!
Падкажыце, ці можна
мяняць хросных бацькоў?"
Ганна*

– Хвала на векі! Шаноўная Ганна! У апошні час такое пытанне ўзнікае дастаткова часта. І калі адказаць каротка, то – не: пасля хросту нельга мяняць хросных бацькоў (або аднаго з іх).

На жаль, людзі не да канца разумеюць, што хросны бацька і маці выконваюць нешта большае, чым "цырыманіяльную ролю". Гэта не проста "папрысутнічаць" падчас сакраманту святога хросту. Быць хросным бацькам ці маці – гэта адказнасць і пэўныя чаканні, і ў некаторым сэнсе такая роля падобная да ролі сведкаў падчас сакраманту шлюбу.

Можна сказаць, што гэта пытанне гістарычнага запісу. Нельга змяніць імя сведкі шлюбу або святара ці дыякана, які асіставаў падчас шлюбу, пасля таго, як шлюб адбыўся. Тое ж самае датычыцца сакраманту святога хросту і хросных бацькоў.

Па-першае, хросныя бацькі з'яўляюцца афіцыйнымі сведкамі хросту дзіцяці, гэта не "роля ў тэатры", для якой можа быць зроблена замена.

Па-другое, з'яўляючыся афіцыйнымі сведкамі хросту, яны разам з бацькамі дзіцяці папрасілі пра ўдзяленне гэтага сакраманту, а таксама выказалі гатоўнасць дапамагаць ім выхоўваць дзіця ў веры, каб, захоўваючы Божыя запаведзі, яно любіла Бога і бліжняга, як навучыў Езус Хрыстус. Іх імёны запісаны ў пасведчанні аб святым хросце і ў Кнізе рэгістрацыі хросту ў парафіі. І зноў жа тут хацелася б падкрэсліць, што факт, які адбыўся, не можа быць зменены.

Па-трэцяе, трэба правільна разумець ролю хросных. Яны маюць абавязак забяспечыць рэлігійнае і духоўнае развіццё дзіцяці, а асабліва, калі нешта здарыцца з бацькамі. Трэба памятаць, што хросныя павінны вельмі добра разумець сэнс сакраманту святога хросту, добра ведаць свае абавязкі і сваім жыццём і верай быць прыкладам для хрэсніка ці хрэсніцы.

Згодна з прадпісаннямі канону 874 Кодэксу Кананічнана Права 1983 г., хросны павінен мець узрост не менш чым 16 гадоў (калі няма іншага рашэння біскупа дыяцэзіі), хіба што па важнай прычыне пробашч ці той, хто ўдзяляе сакрамант, можа зрабіць выключэнне; быць каталікам (прынамсі адзін з хросных); быць пасля прыняцця Першай Камуніі і сакраманту канфірмацыі (бежмавання); весці жыццё, згоднае з верай і адпаведнае функцыі, якую мае выконваць, а таксама быць свабодным ад кананічнай кары і не з'яўляеццца бацькам або маці таго, хто прымае хрост.

Пазней, калі ахрышчанае дзіцё будзе прымаць сакрамант канфірмацыі, то згодна з прадпісаннямі канону 893 § 2 "пажадана, каб сведкам бежмаванага прызначаўся хтосьці з хросных, які прыняў на сябе тыя ж самыя абавязкі пры хрышчэнні". Хоць гэта і не з'яўляецца абавязковым.


Кс. Аляксей Ляшко



Выбіраючы хросных, бацькі павінны звярнуць увагу на тых людзей, якія дапамогуць ім выхоўваць дзіцё ў каталіцкай веры. А такімі людзьмі могуць быць толькі тыя, хто прымае веру сур'ёзна і жыве згодна з ёй і з хрысціянскай маральнасцю.

*З павагай,*
***кс. Аляксей Ляшко***
*(афіцыял біскупскага суда)*

## Допустимо ли прерывать беременность, если известно, что ребенок родится без мозга?

**Допустимо ли прерывать беременность, если известно, что ребёнок родится без мозга, ведь все равно он не сможет выжить?**

Вопрос о том, является ли ребёнок, рождённый без мозга (с диагнозом анэнцефалия), человеческой личностью, волновал богословов с древних времён, прежде всего в свете возможности их Крещения. И они пришли к утвердительному ответу. Ребёнок, лишенный мозга или его части, всегда почитался человеческой личностью и получал Крещение.

К этому же выводу можно прийти и с научной точки зрения: ребёнок с пороком или отсутствием мозга является индивидуумом, представителем человеческого рода, плодом человеческого деторождения. С самого зачатия динамизм развития этого индивидуума направлен на достижение биологической зрелости человека, хотя и несовершенной. Во многих случаях это развитие доходит до рождения, а иногда продолжается месяцы после рождения. Поэтому ребёнок с анэнцефалией обладает ценностью и достоинством человеческой личности, а значит, относиться к нему следует с таким же уважением и заботой, как к любому плоду и новорожденному. И с терапевтической точки зрения это означает, что ему нужно обеспечивать обычную заботу – тепло, питание и гидратацию, – пока не наступит естественная смерть.

В настоящее время диагноз анэнцефалии может быть поставлен за несколько месяцев до предполагаемой даты родов с помощью обычного ультразвукового исследования, а также посредством измерения уровня некоторых веществ в материнской крови или амниотической жидкости, в частности, уровня альфа-фетопротеина. Некоторые после этих анализов прибегают к так называемому терапевтическому аборту. Но и в таких случаях аборт недопустим. Речь идет о человеческой личности, над жизнью и смертью которой никто не имеет власти. Любой человек, в каком бы состоянии он ни находился, должен быть принят и должен получать необходимую заботу, пока сам Господь его не призовёт.

И обычное оправдание – "он всё равно скоро умрёт" — не может быть приемлемым с нравственной точки зрения. Да, это правда, он скоро умрёт. Но незыблемым остается тот факт, что никто из нас не имеет власти над жизнью другого человека. В конце концов, подобную логику можно было бы применить к любому человеку. Каждый из нас рано или поздно умрёт, и ни об одном новорожденном нельзя с уверенностью сказать, что он проживёт счастливую и безоблачную жизнь, сохраняя здоровье. Но всё это не может оправдывать никакое убийство человека.

*Русская редакция
Vatican News*

## Трудные вопросы: измена и развод




**Имеет ли право жена развестись с мужем после его измены или она обязана продолжать жить с ним? И если она все-таки уходит, то сможет ли принимать Причастие?**

В самом вопросе уже звучит распространённое заблуждение: будто в случае расставания супруги лишаются Святого Причастия в силу самого этого расставания. Поэтому ещё раз напомним: Святое Причастие не могут принимать разведённые, вступившие в повторный брак или сожительство, так как тем самым они живут в состоянии прелюбодеяния, смертного греха против шестой заповеди. При раздельном проживании супругов или гражданском разводе нерасторжимые узы Таинства Брака не нарушаются.

Но в данном вопросе речь идет о самой возможности раздельного проживания после измены одного из супругов.

Конечно же, Церковь склоняет невиновную сторону проявить милосердие по отношению к супругу и простить его, особенно если он раскаялся в своём поступке. Вместе с тем пострадавшая сторона имеет право отказать супругу в близости и поскольку измена наносит сильную рану, то может отказать также в совместном проживании и получить гражданский развод. Ведь одно дело – прощение и совсем другое – совместная жизнь и супружеская близость. Каким бы искренним ни было раскаяние супруга, пострадавшую сторону нельзя принуждать к прежней жизни, если для неё это психологически невозможно.

В этом случае, если дело доходит до расставания супругов, пострадавшая сторона может, как обычно, приступать к Святым Таинствам. Если виновная сторона искренне раскается и исповедуется, то и ей не может быть отказано в отпущении греха и в Причастии.

*Русская редакция
Vatican News*

## Трудные вопросы: убийства в Библии

**Почему в Библии так много убийств совершается по воле Бога?**

Ветхий Завет действительно изобилует войнами и разрушениями, происходящими якобы по воле Бога. Но следует иметь в виду, что Библия использует антропоморфный язык, который приписывает Богу человеческие действия и намерения. Например, о праведной войне говорится, будто её захотел Бог. Точно так же, когда мы читаем в Библии, что Бог "ожесточил сердце" египтян, это следует понимать так: Бог допустил, чтобы египтяне ожесточили свои сердца. Когда мы совершаем дурные поступки, Бог это допускает, оставляя решение за нами.

Ветхий Завет, как говорил святой Августин, – это книга терпения Бога. Библия показывает, сколько терпения проявил Бог с человечеством, погрязшем в грехах до такой степени, что оно уже не различало между добром и злом, между тем, что хорошо, и тем, что плохо, между тем, что исходит от Бога или от нашей воли.

И в этой пропасти грехов Бог не побрезговал воплотиться, чтобы принести свет и благодать спасения.

*Русская редакция
Vatican News*

# Гісторыі, запісаныя ў Пастаўскай парафіі

## Крыж

Наша вёска Міхнічы за польскім часам уся была каталіцкай. Толькі адна сям'я – праваслаўныя. Прыедзе ксёндз калядаваць – увесь дзень калядуе. З песнямі, з музыкантамі хадзіла моладзь (і не толькі моладзь) з ксяндзом па хатах.

Майскія і чэрвеньскія набажэнствы праводзілі ва ўпрыгожанай кветкамі і бярозкамі хаце. Жанчыны з усёй вёскі збіраліся шарай гадзінай памаліцца, нават тады збіраліся, калі працавалі ад зары да зары ў калгасе А крыжовыя дарогі адпраўлялі каля крыжа. Ён стаяў на скрыжаванні дарог – высокі, некалькі метраў у вышыню. Усёй вёсцы відаць.

Калі ў 1939 годзе прыйшла савецкая ўлада, радасна сустрэла яе толькі сям'я праваслаўных, бо ўсе іншыя шмат чулі пра тое, як жывецца людзям у Савецкай Беларусі. Бацька і сын – праваслаўныя – пачалі хадзіць пад вокны да аднавяскоўцаў падслухоўваць, пра што людзі гаворуць у хатах, ці не ганяць новую ўладу. Каб паказаць, што Бога не баяцца, закалолі кабана і прынеслі яго смаліць пад крыж. Крыж быў абнесены невялікай агароджай. Дык яны паклалі дошкі на агароджу і давай смаліць кабана саломай. Смаляць, іскры лятуць на крыж. Уся вёска ў здранцвенні глядзела на гэта святатацтва, але ніхто не ўмешваўся.

Тут вайна, нехта данёс немцам пра здзекі з крыжа. Толькі, добра ведаю, не з нашай вёскі чалавек удаў іх, бо сярод нас не было даносчыкаў. Немцы аднойчы прыехалі і прыгналі сына з бацькам пад той крыж. Шампаламі збілі. Збіраліся расстраляць. Быў у нас чалавек, які свабодна размаўляў па-нямецку. Ён вярнуўся з палону ў Першую сусветную вайну. Ад імя ўсёй вёскі стаў гэты чалавек прасіць немцаў, каб не расстрэльвалі бацьку з сынам: якія ні ёсць, а ўсё роўна свае. Склалі немцам "хабар": яйкі, сала несла ўся вёска. Адпусцілі і бацьку, і сына. Маці тады чуць розум не страціла, з таго часу як не ў сабе стала.

Думаеце, яны зрабілі высновы? Адразу пасля вайны сына з той сям'і ў нас прызначылі і старшынёй калгаса, і старшынёй сельсавета. Але што ж, калі ён малапісьменны! Начальнікам быў слабым, якую пасаду яму ні прапаноўвалі. Калі крыж у цэнтры вёскі падгніў (ужо пасля вайны), сабраліся вясковыя мужчыны адрамантаваць яго. Едзе цыган: "Малайцы, хлопцы! За савецкім часам і не баяцца крыж ставіць!" – шапку зняў, перахрысціўся. Ідзе сын таго бязбожніка, начальнік. Падбег да мужыкоў: "Я запрещаю вам, что вы делаете, я запрещаю!" А цыган яшчэ быў тут, усё чуў: "Не слухайце, хлопцы, стаўце!" Адрамантавалі тады крыж, паставілі дубовую апору, пафарбавалі... Агароджу падправілі. Жанчыны кветачкі садзілі, даглядалі. Тады, у час барацьбы з рэлігіяй, у многіх вёсках крыжы знішчылі, пазварочвалі. А наш выстаяў.

А лёс таго сына-бязбожніка не проста незайздросны – трагічны. Што з ім здарылася? Застрэліў спачатку сваю маці, потым суседку – жонку брыгадзіра (на самай справе, хацеў забіць брыгадзіра). Потым, залезшы на гарышча, страляў па людзях, якія праходзілі па вуліцы, добра, што не пацэліў. Нарэшце застрэліўся сам...

Цяпер вёскі няма, а крыж стаіць. Ужо і вуліцы зараслі лазой. Але на могілкі на Дзяды ўсе дружна збіраюцца.

> ***Ксёндз-пробашч наш здзіўляецца: "Што за вёска такая была? Не ўжо няма, а людзі памяць пра родных, сваякоў і суседзяў шануюць!"***

## Бог пакрыўджаным дапамагае

У нашай вёсцы быў добры муляр. У пачатку XX стагоддзя, калі будавалі касцёл у Паставах, яго запрасілі на будоўлю. Але маладому муляру не пашчасціла: зваліўся з рыштаванняў, загінуў. Засталася маладая ўдава з малой дачушкай. Вырасла дачушка і вырашыла паехаць на заробкі ў Пецярбург. У той час многія ездзілі, каб зарабіць, не адна яна выбралася ў дальнюю дарогу. Пазнаёмілася ў Пецярбургу з мараком, моцна пакахала яго, зацяжарыла. Калі сказала яму пра сваё становішча, ён адразу ад яе адрокся. Колькі яна ні плакала, колькі ні прасіла яго – вымушана была ехаць дадому адна, з вялікай ганьбай, як казалі даўней.

А марак пайшоў у плаванне. І раптам здарылася на моры такая бура: вось-вось карабель патоне... На тым караблі быў свой святар. Сабраў ён экіпаж і кажа: "Нехта з вас моцна саграшыў, ідзіце хутчэй спавядацца!" І калі прыступіў да споведзі той марак, святар сказаў: "Ты моцна саграшыў. Калі вернешся з рэйсу жывы, адразу едзь да той дзяўчыны, перапрасі яе і бяры замуж".

Хутка пасля споведзі бура сціхла, карабель вярнуўся ў порт. А той марак адправіўся да зганьбаванай дзяўчыны. Прыехаў у вёску, знайшоў яе і прапанаваў жаніцьбу. Але дзяўчына сказала: "Я ўжо ўсё выплакала, усю ганьбу знесла адна. Замуж за цябе не пайду".

Нарадзілася ў яе цудоўненькая дзяўчынка, стала падрастаць. І прыгожая была, і працавітая. Але сваты абмінаюць хату, хлопцы, здаецца, і захапляюцца, але замуж не прапануюць. "Байстручка, бахурка" – так называлі ў нашай мясцовасці дзяцей, народжаных у граху. І тады адна пажылая жанчына параіла дзяўчыне: "Едзь у мосарскі касцёл. Тое месца цудадзейнае. У дзень фэсту абыдзі касцёл на каленьках тры разы, адмаўляючы ружанец, і выйдзеш замуж".

Паехала дзяўчына на фэст у Мосар. Абышла касцёл тры разы – каленькі сталі крывавымі ранамі. А як толькі дабралася дадому – сват на парозе. І выйшла тая дзяўчына замуж нашмат лепш, чым яе равесніцы з "прыстойных" сем'яў. Бог дапамог ёй.

*Аліна Латыш*



Мосарскі касцёл напачатку XX ст. Здымак з калекцыі Уладзіміра Скрабатуна.

# Что почитать?

## Генри Клауд. "9 принципов успеха в любви и жизни"

**Кто в наше время не хотел бы быть успешным в призвании, семейной жизни, карьере, дружбе и в других сферах своей жизни? Возможно, добиться успеха хотел бы каждый.**

**■ Виктория Заречная**




Но как найти тот самый алгоритм "правильных" шагов к успеху? И как в погоне за успешной жизнью не растерять себя и тех даров, которыми нас так щедро наградил Господь Бог?

Доктор Генри Клауд – популярный христианский психолог, в своей книге "9 принципов успеха в любви и жизни" попытался поделиться с читателями основными принципами, которыми руководствуются успешные люди в достижении своих высот.

Автор на страницах книги доступно и ловко проводит нас тем самым путём, которым идут успешные люди. Он подробно рассказывает о принципах и особенностях поведения людей, которые добились успеха. Предложенные принципы просты и одновременно глубоки. Но мы очень часто в повседневной жизни просто не замечаем их. Генри Клауд вывел правила из наблюдений за наиболее успешными людьми, беседуя с этими людьми, делая выводы и применяя на практике каждый из принципов в своей жизни.

> ***Книга интересна также тем, что автор рассказывает о своём личном опыте промахов и падений, взлётов и непростому пути к успеху.***

Итак, для кого написана эта книга?

Для тех:

- кто хочет изменить свою жизнь в лучшую сторону, независимо от возраста, пола, национальности и вероисповедания;
- кто считает себя неудачниками и кто многого достиг;
- кто упорно идет к цели и кто уже теряет надежду;
- кто желает улучшить свои семейные дела, уйти от одиночества, сделать карьеру, завязать и сохранить отношения или продвинуться по пути духовного роста;
- кто работает с тонкой материей человеческой души – психологов, консультантов, священников, педагогов.

Автор уверяет читателей, что если мы хотя бы немного постараемся изменить привычный стиль нашего поведения и попробуем воплотить девять предложенных им принципов в жизнь, нас обязательно ждёт успех и благословение, ведь Господь Бог хочет видеть нас счастливыми уже здесь, на земле. Доктор Клауд обещает, что через девять принципов нас ждут "замечательные переживания и новые открытия, которые плодотворно отразятся на всех областях вашей жизни". Но чтобы твёрдо держаться выбранного пути и пройти через все преграды и препятствия, Генри Клауд даёт также двенадцать полезных шагов по применению тех самых девяти принципов успеха.

Автор считает, что успех – это не награда для избранных, не удел счастливчиков и не привилегия отдельных людей. К успеху ведёт путь мудрости и благословения, который доступен каждому без исключения! Выйдем в путь?

**Содержание:**

1. Дежа вю.
2. Девять принципов, спрятанных у всех на виду.
3. Принцип 1: загляни внутрь себя!
4. Принцип 2: вырви больной зуб!
5. Принцип 3: прокрути пленку до конца!
6. Принцип 4: сделай что-нибудь!
7. Принцип 5: делай как муравей!
8. Принцип 6: здоровая ненависть!
9. Принцип 7: не воздавай злом на зло!
10. Принцип 8: проявляй смирение!
11. Принцип 9: не бойся кого-то огорчить!
12. Как стать человеком из дежа вю!

P.S. Данную книгу можно приобрести на сайте epbook.by в разделе "Книги Клауда и Таунсенда" или в других книжных интернет-магазинах. В редакции данной книги, к сожалению, нет.

# ПАЗНАВАЙКА

**Толькі Бог аб'ядноўвае людзей.**
**Гісторыя будаўніцтва адной вежы.**

## Заданне №1



*У папярэднім нумары Кат.Весніка мы пазнаёміліся з гісторыяй праведнага Ноя. Пасля патопу прайшло шмат часу і людзі пачалі будаваць Вялікую вежу ажно да нябёсаў. Аб тым як будавалася гэтая вежа прачытай у кнізе Быцця 11, 1-9*

Калі правільна злучыш па кропках літары ўпісаныя ў нумары, даведаешся як называлася вялікая вежа. Размалюй. Адказ запішы ўнізе.

## Заданне №2

Як думаеш ці быў Бог задаволены будаўніцтвам вялікай вежы? Чаму? Ці была яна дабудавана?
Які грэх быў прычынаю будаўніцтва вежы, даведаешся, калі разгадаеш рэбус.




**АДКАЗ:** ______________________________

## Заданне №3

Паглядзі, як Біблія нам падказвае лекавацца ад хваробы пыхі: выпішы па парадку ўсе зялёныя літары ў ланцужку, і зможаш прачытаць гэтыя словы з Бібліі.




(Другое пасланне ад Карынцянаў 10,17)

АДКАЗ: ______________________________

______________________________

*Вельмі хутка ў Касцёле распачнецца перыяд Вялікага Посту. Адным з самых галоўных набажэнстваў падчас Посту з'яўляецца Крыжовы Шлях. Праз гэтае набажэнства мы разважаем над мукай і смерцю Езуса Хрыста. У наступным заданні прапануем табе праверыць, ці добра ты ведаеш Крыжовы Шлях Хрыста, і зрабіць сабе картку-памятку, з якой можаш хадзіць на набажэнства Крыжовага Шляху ў касцёл.*

**Заданні:**

1. Асцярожна выражы рамку з пустымі стацыямі Крыжовага Шляху і прыклей на цвёрды кардон.
2. Выражы кожную стацыю і ўклей ў пустую рамку на картцы-памятцы, адпаведна свайму нумару.
3. Папрасі дарослых цябе праверыць.






*Мастачка:* **Вольга Будкіна;** *ідэя:* **Вікторыя Колзун**




# Рэкалекцыі для моладзі ў Наваполацку

**Рэкалекцыі для моладзі ў Наваполацку пройдуць з 15 па 17 сакавіка і будуць называцца "Мой Егіпет – месца маёй няволі: выйсці або застацца".**

Калі прагнеш, каб час Вялікага Посту быў для цябе незвычайным і карысным для душы, то запрашаем менавіта цябе пазнаць **"Мой Егіпет – месца маёй няволі"** і вырашыць для сябе ЗАСТАЦЦА або ВЫЙСЦІ ў невядомы шлях, каб сустрэць Уваскрашэнне.

**Наш адрас: г. Наваполацк, вул. Я. Коласа, 52.**
**Запіс да 12 сакавіка па тэл. +375 33 903 61 71 – с. Марыя Пія CR.**

# Рэкалекцыі цвярозасці пройдуць у Баранавічах

**15-17 сакавіка 2019 года ў Баранавічах пройдуць рэкалекцыі цвярозасці, якія арганізоўвае душпастырства цвярозасці Гродзенскай дыяцэзіі.**

Арганізатары запрашаюць да ўдзелу ўсіх, каго хвалюе праблема алкагалізму і наркаманіі ў Беларусі. Рэкалекцыі адбудуцца ў доме айцоў-вэрбістаў па вул. Шаўчэнкі, 6.

**Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: +375 33 325 57 64 – Юрый Гапонік.**

*grodnensis.by*

# Ці носіце Вы на сабе штодня рэлігійныя прадметы (крыжык або медалік)?



- так, ніколі не выходжу з дому без гэтага – 272
- гэта ж неабавязкова, нашу час ад часу – 34
- іншы адказ у каментары ў сацыяльных сетках – 16
- не нашу, бо саромеюся – 4

**Усяго – 326**

# Запрашаем на Алімпіяду па веданні Святога Пісання!

**Паважаныя святары, асобы кансэкраваныя, браты і сёстры ў Хрысце! Дарагія дзеці!**

**Запрашаем Вас прыняць удзел у Дыяцэзіяльным конкурсе на веданнне Святога Пісання! Конкурс быў абвешчаны ў снежні мінулага года і ўжо хутка, а менавіта 23 сакавіка 2019 г., адбудзецца яго першы, парафіяльны этап.**

У конкурсе могуць прымаць удзел дзеці з каталіцкіх парафій Віцебскай дыяцэзіі ў дзвюх узроставых катэгорыях:



**1 катэгорыя** – дзеці ад 9 да 11 гадоў уключна (могуць быць маладзейшыя); **2 катэгорыя** – дзеці ад 12 да 14 гадоў уключна.

Асновай конкурсных матэрыялаў з'яўляецца Святое Пісанне Старога і Новага Запавету (любое кананічнае выданне). У 2019 годзе конкурс будзе праходзіць на аснове зместу наступных кніг Святога Пісання: Кніга Быцця і Евангелле паводле Лукі.

***Дзеці, якія жадаюць прыняць удзел у конкурсе, павінны ў найбліжэйшы час звярнуцца да сваіх катэхетаў або пробашчаў.***

Для ўдзелу ў конкурсе парафіі неабходна даслаць арганізатарам па электроннай пошце vitebsk.caritas@gmail.com запоўнены фармуляр для запісу з дадзенымі ўдзельнікаў да 1 сакавіка 2019 г. уключна.

Арганізатарам Дыяцэзіяльнага конкурсу біблійных ведаў з'яўляецца Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь.

**Адкрыем разам моц і прыгажосць Божага Слова!**

**Даведкі па тэлефоне: +375298150906**

# Манахіні запрашаюць дзяўчат на рэкалекцыі ў Паставы

**З 29 па 31 сакавіка 2019 года сёстры Маці Божай Міласэрнасці арганізоўваюць у Паставах рэкалекцыі для дзяўчат "Калі б ты ведала дар Божы – спатканне жаданняў".**

Жанчына-самаранка носіць у сабе вялікую прагу – прагу любові. Здаецца, што яна мае ўсё, што ёй патрэбна. Аднак не знаходзіць таго, чаго сапраўды шукала, яе сэрца пустое. Яна мае "сваю ваду" – сваё маленькае суцяшэнне, радасць, ваду, якая ў пэўны момант "напаўняе", тушыць прагу яе сэрца, але не надоўга.

Езус ахвяруе ёй "жывую ваду", якая зможа затушыць яе найглыбейшыя пачуцці – пачуццё ўласнай вартасці, прызнання і любові.

***"Калі б ты ведала дар Божы"*** (Ян 4, 10). Тут, пры студні, да якой мы прыходзім шукаючы нашай вады, аб'яўляецца цуд малітвы: Хрыстус выходзіць насустрач кожнаму чалавеку. Гэта Ён першы шукае нас і просіць, каб Яму далі піць. Езус адчувае нашую прагу. Яго просьба ідзе з глыбіні самога Бога, Які прагне нас. Малітва – ці разумеем мы гэта, ці не – гэта спатканне Бога з нашымі жаданнямі. Бог прагне, каб мы прагнулі Яго.

**Рэкалекцыі правядуць** кс. Эдуард Сінкевіч SCJ і сёстры Маці Божай Міласэрнасці.




**Узрост удзельніц – ад 14 гадоў.**
**Наш адрас: г. Паставы вул. Набярэжная, 6.**
**Запіс да 25 сакавіка па тэл. +375 (29) 216-14-32 с. Канстанцыя.**

## Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны аўторак, чацвер і пятніцу з 11.30.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298

## Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

## Правільныя адказы на тэст са старонкі 9

1 – Б; 2 – В; 3 – А; 4 – В; 5 – Б; 6 – Б; 7 – А; 8 – В

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 1176

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2700 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 21.02.2019 г. у 12.27

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь